

Лідзія Ражанава адна з таленавітых салістак балета Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета. На здымку: заслужаная артыстка БССР Лідзія Ражанава перад выхадам на сцэну.

Фото М. Мінковіча.



Рускі драматычны тэатр БССР пакажа маскоўскаму гледачу поўную бяспрыкладнага гераізма п'есу К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць». Цудоўны подзвіг абаронцаў крэпасці ў гэтым спектаклі знайшоў выдатнае адлюстраванне дзякуючы выдатнай ігры акцёраў.
На здымку: фінал спектакля «Брэсцкая крэпасць».

Фото І. Берліна.





Раіса Кудрэвіч належыць да мастакоў таго пакалення, якое пачало ствараць свае творы пасля Вялікай Айчыннай вайны. Разам са сваімі аднагодкамі-таварышамі яна актыўна ўдзельнічае ў аднаўленні роднай краіны. Яна бачыла небывалы энтузіязм людзей, якія ўзводзілі фабрыкі і заводы на руінах і папялішчах. Яна разам з сябрамі радавалася поспехам мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Ёй блізкія і дарагія невычарпальны аптымізм совецкіх людзей, іх жыццерадаснасць і вера ў будучыню. Вось чаму ўся творчасць Раісы Кудрэвіч прасякнута гэтым светлым пачуццём радасці і шчасця, пафасам мірнай стваральнай працы.

Простая па сюжэту яе карціна «Сяброўкі». Дзяўчына атрымала ад любімага хлопца ліст і фотакартку. Разам са сваёй задушэўнай сяброўкай яна чытае гэты ліст відаць, поўны гарачага кахання. Сюжэт просты, вельмі звычайныя і дзяўчаты. Але колькі ў іх шчырасці, душэўнай прыгажосці! Якія яны мілыя і непасрэдныя! Такіх нельга не любіць.

Карціна «Сяброўкі» сведчыць аб творчым росце і выдатным таленце маладога мастака Раісы Кудрэвіч.

Зусім нядаўна пасля вучобы пачалі ствараць свае скульптуры Віктар Папоў і Елена Сомава. Нават першыя іх работы прыцягнулі ўвагу грамадскасці глыбокім пранікненнем скульптараў у псіхалогію вобразаў. Новая работа з'яўляецца выдатным дасягненнем маладых скульптараў.

На здымках: уверсе — «Сяброўкі», карціна мастака Р. Кудрэвіч; унізе — «Скрыпачка», скульптура В. Папова і Е. Сомавай.



**...Так часта бывае ў сям'і Паплаўскіх. Трохгадовы Чэсік пад акампанемент сястры Ядзі выконвае песеньку. Старэйшая сястра шасцігадовая Хрысціна, як даўно авалодаўшая нотнай граматай, правярае, ці правільна выконваецца песня.**

Фото А. Дзітлава.



**Агітатар комуніст І. Г. Ганусевіч вядзе гутарку з групай маладых выбаршчыкаў выбарчага ўчастка № 3 Чыгуначнага раёна г. Віцебска.**

**Яго слухаюць** (злева направа): **вучні вячэрняга аддзялення Віцебскага станкабудаўнічага тэхнікума, работнікі завода «Комінтэрн» Надзежда Голубева і Ніна Іванова, і мастак арцелі «Картанажнік», вучаніца 8-га класа сярэдняй школы рабочай моладзі Галіна Голубева.**

Фото А. Дзітлава.



Квартэт цымбалістаў аркестра Беларускага дзяржаўнага народнага хору: (у першым радзе) Елізавета Карабанава і Мікалай Лагун, (у другім радзе) Іван Жур і Пётр Калошын.

Фото А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 2(23).

Люты.

1955.

# АГІТАТАР

Гэта было паўтара года назад. Да сакратара партыйнай арганізацыі Рыгора Савановіча Каця Дубік зайшла надзвычай усхваляванай. Забыўшыся нават прывітацца, яна выпаліла:

— Толькі што гутарку праводзіла.

— Ну, і што?

— А тое, што не магу я агітатарам працаваць!

— Не хвалюйцеся, — сказаў сакратар. — Давайце ўсё па парадку.

— У тым-та і справа, што парадку няма. Напісала цэлы сшытак, гаварыла да хрыпаты, а ўражання — ніякага. Слухалі мяне нібы і ўважліва, але гэта, мабыць, з ветлівасці.

— Цікава!

— Скончыла я гутарку, а пытання па тэме — ніводнага. Затое засыпалі пытаннямі пра работу нашага прадпрыемства.

— Гэта і добра, — сказаў сакратар. — Агітацыя павінна быць заўсёды канкрэтнай. Трэба расказваць і аб прадукцыі, якую выпускае наша арцель, і аб яе значэнні ў справе палепшання быту працоўных. Вельмі важна, каб кожны рабочы зразумеў сваю ролю і сваю адказнасць у вырашэнні гэтай складанай задачы. І пра недахопы, і пра шляхі іх выпраўлення трэба гаварыць на ўвесь голас. Тады вас і слухаць будуць уважліва.

Выйшаўшы ад сакратара, Каця села на лаўку ў маладым скверыку. Ёй трэба было падумаць шмат аб чым.

У раннім дзяцінстве яна засталася без бацькоў. Дзіцячы дом, школа, ФЗН, самастойная работа, першыя радасці і няўдачы. Зараз Каця працуе ў арцелі мастаком. Прыгожыя дываны, вытканыя ўмелымі рукамі яе сяброваk, спачатку нараджаюцца пад яе кісцю. І дзяўчыне радасна адчуваць, што яе праца ўпрыгожвае жыццё людзей.

Каця не перастала працаваць агітатарам. Гутаркі яе былі іншы раз лепшымі, іншы раз — горшымі, але галоўнае — цяпер дзяўчына разумела, на якім матэрыяле яны павінны быць пабудаваны.

Каця стала больш патрабавальнай да сябе. Яна працавала, думаючы пра сябе, як пра работніка, на якога глядзіць многа людзей. У творчых пошуках ажывала фантазія: знаходзіліся новыя ўзоры для роспісу дываноў, павышалася майстэрства. Выпрацоўка таксама расла. А хіба-ж дрэнна, калі прозвішча агітатара заносіцца на арцельную дошку гонару, калі сам агітатар у два, а то і ў тры разы перавыконвае норму.



Каця Дубік у бібліятэцы арцелі рыхтуецца да чарговай гутаркі.

Асабісты прыклад стаў, бадай, самай лепшай агітацыяй.

Але дзяўчына адчувала, што ёй нестае ведаў у галіне палітграматы. Яна пачала наведваць комсамольскі палітгурток, пачала добрасумленна вывучаць матэрыял па падручніку, пільна сачыць за навінкамі палітычнай і мастацкай літаратуры, чытаць газеты, часопісы.

Поспех прыходзіў не адразу. Каця заўважала, як з кожным днём яна ўсё смялей ідзе да сваіх слухачоў і ўжо не баіцца пытанняў, зададзеных «не па тэме». Дзяўчына сама наводзіла сваіх слухачоў на думку ўздымаць новыя пытанні. Яе гутаркі ўсё менш сталі паходзіць на «акадэмічны ўрок», — яны станавіліся жывой, цікавай размовай, у якой яна сама часта бывала слухачом, а яе аўдыторыя — агітатарам.

Наступіла адказнейшая за гэтыя гады кампанія — выбары ў Вярхоўны Совет рэспублікі і ў мясцовыя Советы.

Усе слухачы Каці — яе сябры па рабоце. Вось яны сабраліся, каб паслухаць гутарку свайго агітатара.

— Сёння пагаворым аб сваім шчасці! — паведамляе Каця.

Яе сяброўка Вольга Шашко здзіўлена паціскае плячыма. «Трэба пра выбары гаварыць, а яна — пра шчасце»...

— Хутка выбары ў органы нашай Совецкай улады, — пачала Каця. — Кожнаму з нас хочацца сустрэць гэты дзень, як свята, адзначыць яго чымсьці новым, радасным, такім, каб памяталася гэта доўга.

— Наш цэх неззаду, — гаворыць Віктар Кулакоўскі. — За пяць апошніх дзён мы выканалі дзесяцідзённую праграму. Калі так справа пойдзе і далей, то выбары нам ёсць чым адзначыць.

— Мы можам да дня выбараў выканаць трохмесячнае заданне! — заяўляе работнік цэха Іван Міхалькевіч. — Трэба выклікаць на спаборніцтва ткацкі цэх, які забяспечвае нас прадукцыяй.

— Цэх — цэхам, а вось чым кожны з нас сустрэне выбары, — задуменна прамовіла Кацярына Лосік.

Слухачы пачалі дзяліцца думкамі пра гэта. Мастак Іван Міхалькевіч расказаў пра свае новыя задумы, пра новыя ўзоры дываноў, якія павінны адлюстроўваць радасць нашага жыцця, і якія ён абавязкова зробіць.

Комсамолка Вольга Шашко, маладая, сарамлівая дзяўчына, раптам устала і сказала, што шчасце ў тым, каб добра працаваць, каб табой ганарыліся. Яна цяпер зразумела, відаць, што гутарка аб іх шчасці якраз была самай патрэбнай «перадвыбарчай» гутаркай.

Назаўтра Каця прышла да сакратара партыйнай арганізацыі. Ён ужо даўно ведаў, што справы пайшлі ў яе на лад, што дзяўчына цяпер не баіцца пытанняў «не па тэме», што яна стала добрым агітатарам.

— Мы вырашылі выклікаць на спаборніцтва ткацкі цэх, — сказала Каця. — Вось пачытайце нашы абавязацельствы.

— Добра, Каця. Калі людзі самі гавораць пра спаборніцтва — лепшага падарунка выбарам не прыдумаеш. Калі-ж вы пашлеце дэлегацыю да ткачоў?

— Сёння. У абедзенны перапынак. Вы прыдзеце?

— Абавязкова. Напішу пра ваш пачын у газету.

— І яшчэ, таварыш сакратар, работнікі нашага цэха вырашылі сваімі сіламі аформіць памяшканні агітпункта і выбарчага ўчастка.

Сакратар засмяяўся.

— Вы малайчына, Каця. Мне якраз званілі з райкома, прасілі пагаварыць з вамі наконт гэтага. А вы самі... Гэта-ж выдатна.

Каця зачырванелася і хуценька пайшла ў свой цэх.

**К. САНКЕВІЧ і І. ЕРМАЛОВІЧ.**

**Арцель «Ударнік»,**
**г. п. Старыя дарогі**
**Мінскай вобласці.**

**Пасля рабочай змены Каця Дубік прачытала дзяўчатам свежую газету.**
Фото Б. Багдановіча.






# Вялікі экзамен

**Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве! Гэта важнейшая падзея ў жыцці нашага народа, вялікі экзамен яго творчай сталасці.**

**За гады савецкай улады ў яркім сузор'і братніх рэспублік расквітнела Савецкая Беларусь. Няма больш беднага, закінутага краю, няма горкай долі народа, аб якіх некалі з сумам пісалі Янка Купала і Якуб Колас. Краіна магутных фабрык і заводаў, прыгожых і добраўпарадкаваных гарадоў, буйных калгасаў, соўгасаў і машынна-трактарных станцый, інстытутаў і школ, дамоў культуры і клубаў, краіна суцэльнай пісьменнасці — такой паўстае сёння перад намі наша родная рэспубліка. Савецкая ўлада, Комуністычная партыя зрабілі ўсё для таго, каб беларускі народ вышаў на шырокую дарогу будаўніцтва свайго шчасця.**

**Выдатных поспехаў дасягнула наша рэспубліка ў развіцці культуры, літаратуры і мастацтва. У Мінску і іншых гарадах працуюць многія прафесійныя тэатры, тысячы харавых, музыкальных, танцавальных, драматычных самадзейных калектываў. Дзяржаўныя тэатры Оперы і балета, імя Янкі Купалы, імя Якуба Коласа, Драматычны рускі тэатр БССР пакажуць у Маскве свае лепшыя пастаноўкі. Яны з вялікім натхненнем прадэманструюць рост тэатральнага мастацтва рэспублікі, узрослае акцёрскае майстэрства. Спектаклі беларускіх тэатраў раскрываюць высокародныя думы нашага народа, яго пачуцці палымянай любві да свайго старэйшага брата — рускага народа, да вялікай і цудоўнай маці-Радзімы.**

**Адным з перадавых атрадаў усесаюзнай літаратуры стала беларуская савецкая літаратура. Яна дасягнула сваёй сталасці і вялікага росквіту. Многія творы беларускай літаратуры сталі вядомымі далёка за межамі рэспублікі, перакладзены на ўсе мовы народаў нашай Радзімы, а лепшыя з іх перакладзены на кітайскую, нямецкую, польскую, чэшскую, румынскую, венгерскую і іншыя мовы. Беларускія пісьменнікі павязуць у Маскву свае новыя раманы, аповесці, п'есы, кнігі апавяданняў, якія адлюстроўваюць гераіку мірнай працы савецкіх людзей, мужную барацьбу народа за сваю свабоду і незалежнасць у час Вялікай Айчыннай вайны.**

**За час пасля першай дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, якая адбылася ў 1940 годзе, у нашай рэспубліцы вырасла многа таленавітай моладзі — пісьменнікаў, кампазітараў, акцёраў, мастакоў, скульптараў. У гэтым нумары мы даем слова творчай моладзі, якая расказвае аб шчасці жыць і тварыць у вялікую эпоху будаўніцтва комунізма.**

# Як складалі песню

Раман САБАЛЕНКА

Тацяна Коктыш нечакана затрымалася на рабоце. Была пільная справа, якую ніяк нельга было пакінуць. Ужо доўгі зімовы вечар разаслаў свае чорныя палотны на снежную бель палеткаў і ў хатах запальваліся адзін за адным агеньчыкі лямпаў, залоцячы размаляваныя марозам шыбы вокан. Якраз у гэты час да Тацяны зайшоў загадчык фермы Уладзімір Давыдавіч Смаршчок. Ён быў у добрым дублёным кажусе, і мароз, здаецца, адскокваў ад яго.

— Што ў цябе тут, Тацяна Юр'еўна?

— Ды маўчыце вы, няўпраўка. Стараюся хутчэй рабіць, а яно, як на ліха, робіцца марудна. А мне-ж трэба ў клуб бегчы, а то там, калі я не прыду, дык могуць разыйсціся.

— Не разыйдуцца, — упэўнена сказаў Уладзімір. — Сёння-ж новую песню будзем развучваць. Але тым часам пазніцца нам няма як. Я каму-небудзь дaручу, няхай дагледзіць за цябе цялят, а мы пойдзем.

Як толькі яны выйшлі з фермы, чулае тацяніна вуха ўлавіла песню. Стаяла наструнёная марозная цішыня, і ў ёй то ўспыхвала, як агеньчык, то затухала песня. Тацяна чула дзявочыя галасы і разабрала, якую песню спяваюць дзяўчаты. Даляталі словы:

Бяроза бела, каранiстая,
Свякроўка мая — наравістая,
Пакуль норавы пераведала,
Ні разу разам не абедала.

Сярод дзявочых галасоў Тацяна пазнала сакавіты голас Соні Праневіч. Гэты голас можна пазнаць сярод сотні іншых! Вырваўшыся з грудзей, ён лёгка, здаецца на крыллях, лунае і вабіць сваім хараством. Ды і песня гэтая пра горкую долю нявесткі шчырая і цёплая. Прышоўшы з сівой мінуўшчыны, яна і сёння жыве, як сведка гэтай мінуўшчыны. І жыве таму, што сам народ уклаў у яе сваю душу.

Тацяна задуменна звяртаецца да свайго спадарожніка.

— От, каб нам, Уладзімір Давыдавіч, сваю такую песню стварыць пра шчаслівае калгаснае жыццё, я нічога-б больш не хацела.

Тым часам яны дайшлі да тацянінай хаты, і яна сказала:

— Зайду пераапрануся. Мне-ж сёння давядзецца кіраваць хорам.

А ў клубе ўжо было поўна людзей. На покуце сядзеў малады хлопец у матроскай форме — Міхаіл Жук. Ён спрабаваў лады баяна і ўсё шукаў нейкай мелодыі. Сёння хор павінен быў рэпетыраваць новую песню.

Нейк Тацяна Коктыш зайшла ў бібліятэку і папрасіла ў бібліятэкара Зоі камплект часопіса «Вожык». Яна доўга разглядала карыкатуры, чытала дасціпныя подпісы пад імі і шчыра смяялася. Да яе падышоў бухгалтар калгаса імя Леніна Гарасім Праневіч.

— Чаго гэта ты, Тацяна, смяешся? — спытаў ён.

— А вунь з гэтага бюракрата, — і яна паказала карыкатуру. Гарасім таксама шчыра смяяўся. Потым яны ўжо ўдваіх перагортвалі часопіс. Раптам на вочы Тацяны трапіў верш Сяргея Дзяргая пад назваю «Бульба». Тацяна яго перачытала раз, другі, ціхенька паспрабавала на рытм народнага танца. Праўда, ён не зусім укладаўся ў рытм танца. Але яна падумала: «Самі падгонім». І прапанавала Гарасіму.

— На, прачытай.

Той прачытаў і сказаў:

— Нішто сабе верш.

— Дзівак ты, гэта-ж песня. Мы гэты верш зробім песняй.

— Праўду ты кажаш, Тацяна, — і Гарасім таксама пачаў мармытаць танец «Бульбу», напяваючы словы верша. Тут-жа яны вырашылі стварыць сваю песню. Верш быў перапісаны на лісткі паперы. Тым часам Міхаіл Жук,



Падлескі хор выступае перад калгаснікамі.

якому Тацяна расказала пра сваю задуму стварыць песню, кожны вечар прыходзіў у клуб, браў у бібліятэцы баян і падбіраў мелодыю.

І вось сёння клуб поўны людзей. Дзяўчаты прышлі ў святочным адзенні. Гарасім Праневіч прывёў мужчын. Міхаіл Жук на баяне граў «Польку». Аж угіналася падлога ад дружнага, няўрымслівага ў сваёй весялосці танца. І раптам Гарасім Праневіч, які стаяў ля дзвярэй, сказаў да баяніста:

— Канчай, Міхась, будзем пачынаць рэпетыцыю.

Дзяўчаты адразу пасталі па партыях. Перад пачаткам, перад узмахам дырыжорскай палачкі, у клуб зайшоў на мыліцах Мікалай Кірнель. Яму хоць і цяжка хадзіць па зімовай слізоце, але ён ні аднаго разу не прапусціць ні рэпетыцыі, ні выступлення. Ды і як ён можа прапусціць: з маладых год з хорам звязана ўсё яго жыццё. Яшчэ ў 1940 годзе, калі Падлескі народны хор, якім кіраваў тады Генадзі Іванавіч Цітовіч, ездзіў на першую дэкаду беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскву, ён быў адным з актыўных арганізатараў калектыва. Цяпер, хоць ён ужо і не можа стаць поруч з маладымі, усё-ж яму на душы лягчэй, калі ён хоць збоку падцягне трохі. Ды і маладыя харысты, бачачы энтузіязм пажылога чалавека, неяк асабліва пранікаюцца павагай да сваёй работы.

— Вы, малеча, не зусім разумееце, што такое песня. Яна, як хлеб, чалавеку патрэбна, — часта гаворыць Мікалай.

Калі ўжо ўсе пасталі як мае быць, Тацяна Коктыш, апранутая па-святочнаму ў кароценькі вышываны, зграбна аблягаючы постаць кажушок, стала перад харыстамі, акінула іх строгім позіркам і сказала:

— Сёння мы, таварышы, будзем вывучаць новую песню «Бульбу». Вось тэкст яе, — і яна раздала лісткі паперы.

Дзяўчаты і хлопцы ўрупіліся ў чытанне тэкста. Тым часам Міхась Жук на ўсю магутнасць баяна зайграў знаёмы танец. Ногі так і прасіліся ў скокі, але дзяўчаты стрымліваліся. Тацяна, як сапраўдны дырыжор, узмахнула рукой і сама заспявала куплет. Але на першым-жа радку голас яе асекся: словы не клаліся ў звыклы рытм народнай песні. Збіўся з рытму і баян, пад акампанемент якога спявала Тацяна. Міхаіл Жук прайшоўся пальцамі па белых гузіках баяна, нібы шукаючы на іх чаго, прыхінуўся вухам да пярэдняй яго планкі, паспрабаваў лады. У гэты час Соня Праневіч, вуха якой вельмі чулае да мелодый песень, падхапіла сваім дужым голасам і нібы прадоўжыла варыяцыю знойдзенай мелодыі. Тады і Тацяна, услухаўшыся ў новую варыяцыю, сваім сакавітым голасам праспявала першы куплет. Але зноў-такі: куплет мелодычна гучаў ужо добра, але некаторыя словы здаваліся нейкімі шурпатымі. Тады харысты адзін за адным пачалі прапанаваць новыя словы. Так быў знойдзены першы куплет новай песні.




Яго паўтарылі першыя, другія галасы, потым узялі басы. І вось ужо ўзмах рукі, і клуб напоўніўся гуллівай, рытмічна простай і яснай мелодыяй, у якой гучалі не толькі асноўныя галасы, а і звінелі падгалоскі, якімі славіцца Падлескі хор і якія ў пэўнай меры складаюць яго выканаўчую спецыфіку.

І так вось куплет за куплетам харысты гуртам шукалі то новых адценняў мелодыі, то іншых, больш трапных і адпавядаючых зместу і рытму песні слоў. Калі ўжо былі па адным праспяваны ўсе куплеты песні і Тацяна запісала тыя змены, што былі зроблены ў мелодыі старой «Бульбы» і ў тэксце новай песні, тады хор яшчэ некалькі разоў паўтарыў «Бульбу». Пад канец рэпетыцыі Тацяна Коктыш цалкам была задаволена, — песня гучала зладжана, весела, задорна. Калгаснікі, якія не ўдзельнічалі ў хоры, а прысутнічалі як слухачы, ажно падтупвалі нагамі ў такт песні. Так і відаць было, што ім хацелася пусціцца ў скокі.

— От, гэта наша песня, — сказаў хтосьці з тых, што стаялі ззаду.

Так была створана новая, заснаваная на народнай мелодыі, песня «Бульба». Нарадзілася яна, каб жыць, весяліць людзей. Нядаўна ўдзельнікам Падлескага хору трапілася песня самадзейнага кампазітара Рыгора Галавасцікава «Мікіта». У ёй расказваецца пра добрага, кемлівага ў рабоце трактарыста Мікіту, які, як выедзе ў поле на трактары, дык упынку яму няма ў рабоце. У адным вось толькі ён хібіць. Даўно яго душа тужыць па прыгожай дзяўчынцы Марыне. Хочацца яму сказаць Марынцы, што ён кахае яе. Надумаецца сказаць, а як толькі сустрэнецца, дык тыя пяшчотныя словы, якія не раз паўтараў Мікіта сам сабе, раптам прападаюць, і ён, моўчкі пастаяўшы з дзяўчынай, ідзе дадому, так і не сказаўшы ёй пра свае пачуцці. Гэтая песня, складзеная на аснове народнага танца «Мікіта», таксама зацікавіла калектыў хору — яна ўвайшла ў яго рэпертуар. І не толькі ў рэпертуар, — яна, як і «Бульба», увайшла ў штодзённы ўжытак — яе спяваюць на вячорках, на калгасных бяседах.

З рэпетыцыі мы ішлі з Гарасімам разам па доўгай калгаснай вуліцы аж на яго хутар. Было ціха. Задумлівыя дрэвы, прыбраныя срэбрам інею, стаялі ў непаўторнай красе. Косыя промні святла, якое лілося з вакон хат, бліскучымі кінжаламі разрэзвалі цемру. Гарасіму, відаць, вельмі хацелася расказаць пра свой хор. І калі ён пачынаў гаворку пра гісторыю хору, голас яго неяк цвярдзеў і ў ім адчуваўся шчыры чалавечы гонар.

— От, каб нам цяпер зрабіць такі хор, якім ён быў калісь, лепшага-б і жадаць не трэба.

— А якім ён быў? — спытаў я.

— Гэта доўгая гісторыя. Наша Падлессе вельмі любіць песню. Яшчэ ў часы белапольскай акупацыі па хатах на вячорках ды попрадках гучала беларуская народная песня. Спявалі людзі пра горкую сваю долю, пра светлыя надзеі на лепшую будучыню.

Гарасім па дарозе расказаў мне пра тое, як у 1939 годзе, адразу-ж пасля вызвалення, у Падлессе прыехаў Генадзі Іванавіч Цітовіч, як ён, паслухаўшы народныя песні, вырашыў арганізаваць хор. Не толькі маладыя, але і старыя падахвоціліся тады спяваць. За які год былі вывучаны народныя песні. А ў падзяку савецкай краіне за вызваленне ад белапольскай акупацыі калектыў склаў сваю задушэўную песню «Нам прыслала Масква падкрапленне». Гарасім са шчырым задавальненнем успамінаў, як масквічы ў часе першай дэкады слухалі гэтую песню, як яны доўга апладыравалі падлясянам. Больш за трыста народных песень і песень савецкіх кампазітараў было тады ў рэпертуары хору. Многія з іх, такія, як «Рэчанька», нарадзіўшыся ў Падлессі, выйшлі на шырокі прастор вялікай краіны.

— Чуў я ў народным беларускім хоры нашу «Рэчаньку», бачыў, як вяночкі на галовах харыстаў гойдаліся, нібы на хвалях рэчанькі, і хораша было ў мяне на душы. Гэта-ж наша родная «Рэчанька».

З крыўдай, з нейкім унутраным болем расказваў Гарасім Праневіч пра тое, як у 1949 годзе хор ледзь не распаўся. Гадоў з чатыры маўчала песня. І вось цяпер яны з Тацянай Коктыш вырашылі аднавіць славу свайго харавога калектыва. У хор увайшла моладзь з добрымі галасамі, са шчырым жаданнем несці ў народ песню. Нядаўна на Ляхавіцкай раённай партыйнай канферэнцыі хор выступаў са сваімі песнямі. Цёпла і шчыра прагучала «Рэчанька». З захапленнем дэлегаты слухалі «Бульбу», «Мікіту», народную песню «Каб я тое знала». З вялікім поспехам калектыў выступіў на абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці ў Брэсце. Неўзабаве ён выступіць на рэспубліканскім аглядзе ў Мінску.

Жыве і красуе, набіраецца сілы песня сяла Вялікае Падлессе. Яна, вышаўшы з глыбінь народных, увабраўшы ў сябе народныя думы і спадзяванні, славіць шчаслівае калгаснае жыццё.

## Гавораць творчая моладзь

### Спяваем аб родным краі

Можна не ўмець спяваць, але не любіць песню нельга. Ды і ці знойдзеш такога чалавека, які не любіў-бы песню? Яна, як найлепшы сябра, падарожнічае з чалавекам усё жыццё.

Аддавалі замуж дзяўчыну за нямілага чалавека — чулася самотная песня, поўная тугі, невыказнага гора, скаргі на свой нялёгкі лёс. Забіралі хлапца на дваццаць пяць год у салдаты — і ён, развітваючыся з родным кутам, роднымі і знаёмымі, то вёў поўны безвыходнага гора матыў, то раптам, як асуджаны, але на хвіліну вольны, пускаўся ў скокі з салаўіным прысвістам, з вясёлай прыпеўкай. Тыя часы прайшлі. Іншым стала жыццё, іншымі сталі песні. Цяпер яны вясёлыя, бадзёрыя, жыццерадасныя. Яны як тая крыніца — светлыя, як тая зара — ясныя, як тая маладосць — вясёлыя. Дык як-жа не любіць песню! Кожнай з нас глыбока ў сэрца запалі беларускія народныя песні. Усё тое, што з дзяцінства нам блізка, зразумела і дорага, мы выказваем у песнях аб маці-Радзіме.

Шчырым пачуццем любві савецкага народа да сваёй бацькаўшчыны і Комуністычнай партыі прасякнуты руская народная песня «Радзіма» і беларуская песня «Партыі слава», якія выконвае наш хор пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Г. І. Цітовіча.

Вялікай любоўю і павагай слухачоў карыстаюцца песні «Ой, шумяць лясы зялёныя» і «Любы зоры залацістыя», у якіх услаўляецца хараство і багацце роднага краю. Гэтыя песні мы спяваем ужо даўно, але гучаць яны кожны раз неяк па-новаму.

Калі адчуваеш, што слухачы ў зале захапляюцца песняй, калі бачыш перад сабой іх усхваляваныя твары, хочацца спяваць яшчэ лепш, яшчэ з большым пачуццём.

**Г. МІЦУРА,**
**М. КАЗЛОЎСКАЯ,**
**М. ІГНАЦЮК,**
удзельніцы Дзяржаўнага народнага хору БССР.



# З глыбінь народнай творчасці



Мал. А. Волкава.

**Пераказ і апрацоўка казак Алеся ЯКІМОВІЧА**

## Хведар Набілкін і сапраўдныя асілкі

Жыў-быў у адной вёсцы бабыль Хведар Набілкін. Слабаваты ён быў сілаю, затое меў галаву з розумам.

Захацелася яму стаць асілкам. «Чым я не асілак? — думае сабе Хведар Набілкін. — І чаму толькі дужыя могуць быць асілкамі?»

Справіў ён палатняны шацёр, сядло, узяў касу замест мяча, сеў на сваю здохлую кабылку і паехаў у свет.

Ехаў, ехаў, даехаў да вялікага горада. Бачыць — на слупе нейкая аб'ява прыбіта. Ён гэта зараз выняў з кішэні аловак і напісаў сваю аб'яву, што ў такім-та годзе, такога-та месяца, такога-та дня праехаў паўз гэты горад магутны асілак Хведар Набілкін — ззаду яго не даганяць, спераду не сустракаць, а здалёку стаць, шапку зняць і павіншаваць...

Прыбіў аб'яву да слупа, а сам далей падаўся.

Тым часам едзе неўзабаве па гэтай дарозе сапраўдны асілак Дубавік. Прачытаў аб'яву і дзівіцца: што за новы асілак заявіўся ў іхнім царстве? Як-жа на яго хоць паглядзець: ззаду даганяць забараняецца, спераду сустракаць не дазваляецца... Прыдзецца, хіба, хоць здалёку пакланіцца яму!

Дубавік тры вярсты кругу даў, наперад заехаў, шапку зняў і крычыць:

— Добры дзень, магутны асілак Хведар Набілкін! Хачу тваім малодшым таварышам стаць. Дзе загадаеш мне ехаць за табою — ззаду ці спераду.

— Ззаду едзь! — адказаў Хведар Набілкін.

Вярнуўся асілак назад і паехаў за ім назіркам.

Прыехалі на шырокі зялёны луг. Хведар Набілкін пусціў сваю кабылку пасвіцца, а сам разапнуў шацёр і лёг спаць

І Дубавік свой шацёр разапнуў воддаля.

Назаўтра ўстаў Дубавік, пачаў меч вастрыць на вялікім бруску. А Хведар Набілкін, убачыўшы гэта, давай сваю касу вастрыць на камені. Меч вострыцца ціха: шах-шах, а каса дзын-дзын аб камень!

Дубавік думае з зайздрасцю: «Ну і мечжа ў гэтага асілка! Звініць не так, як мой».

Пастаялі яны на лузе два дні, на трэці Дубавік кажа Хведару Набілкіну:

— Жыве тут недалёка Цмок трохгаловы. Выклікае ён да сябе каго-небудзь з асілкаў на бой. Ці сам паедзеш, ці мяне пашлеш?

— Ат, — плюнуў Хведар Набілкін. — Буду я аб такую драбязу рукі пэцкаць! Едзь ты!

Ну, асілак сабраўся і паехаў. А Хведар Набілкін лёг спаць.

Прыязджае Дубавік да Цмока.

— Хто ты? — пытаецца Цмок. — Ці не сам Хведар Набілкін? Чуў я пра цябе — кажуць, нават аб'ява вісіць, што новы магутны асілак у гэтым царстве завёўся...

Бачыць Дубавік: Цмок дужа баіцца новага асілка Хведара Набілкіна. Ён і адказаў яму:

— Але, сам Хведар Набілкін...

— Ну, што-ж, Хведар Набілкін, будзем біцца ці мірыцца?

— Не, нячыстая сіла, не дзеля таго ехаў сюды сам Хведар Набілкін, каб мірыцца, а дзеля таго, каб біцца!

Выхапіў асілак Дубавік свой востры меч і адсек Цмоку ўсе тры галавы. Дзве галавы ў дрыгву ўтаптаў, а трэцюю ўссадзіў на меч і вязе на паказ свайму старэйшаму таварышу Хведару Набілкіну. Прыехаў і пытаецца ў яго:

— Дзе загадаеш Цмокаву галаву падзець?

— Кінь у куст! — махнуў рукою Хведар Набілкін.

Тым часам каля таго горада праязджаў асілак Гаравік. Убачыў аб'яву і задзівіўся: эге, вось дзе з кім цікава было-б сустрэцца! Паехаў ён па слядах і прыехаў на шырокі зялёны луг. Здалёку пакланіўся Хведару Набілкіну і кажа:




— Ці не прымеш мяне, магутны асілак Хведар Набілкін, за таварыша?

— Добра. Стаў свой шацёр.

Паставіў свой шацёр і Гаравік.

Назаўтра Гаравік кажа Набілкіну:

— Аб'явіўся ў нашым краі паганы Цмок з шасцю галовамі. Дык ці сам паедзеш біцца з ім, ці мяне пашлеш?

— Ат, — плюнуў Хведар Набілкін, — буду я аб такую драбязу рукі пэцкаць! Едзь ты!

Паехаў Гаравік, адсек усе шэсць галоў Цмоку і адну на паказ прывёз.

— Дзе загадаеш Цмокаву галаву падзець? — пытаецца ў Хведара Набілкіна.

— Кінь у куст дрэнь гэтую!

Шырока пайшла слава пра асілка Хведара Набілкіна. Дайшла чутка пра яго і да дзевяцігаловага Цмока. Выклікае ён Хведара Набілкіна на бой. Хацеў Хведар Набілкін і на гэты раз каго з сваіх малодшых таварышаў пасацьаць, ды тыя адмовіліся.

— Мы ўжо, — кажуць, — ездзілі, цяпер твая чарга, ды і Цмок па тваёй сіле трапіўся: нам з ім не справіцца.

Ну, нічога не зробіш: трэба ехаць. Ці-ж да твару магутнаму асілку гонар свой траціць?



Сабраўся Набілкін, сеў на сваю здохлую кабылку і паехаў.

А Цмок чакаў, чакаў Хведара Набілкіна, не дачакаўся — сам да яго вышаў. Сустрэліся яны на поўдарозе. Як убачыў Хведар Набілкін перад сабою страшылішча дзевяцігаловае, напужаўся ды, як дуж, ходу назад! Цмок за ім.

Збіўся перапалоханы Хведар Набілкін з роўнай дарогі, трапіў на глухую. А гэтая дарога вяла ў дрыгвяністае балота. Ляцеў, ляцеў ён па глухой дарозе ды ўскочыў з кабылкаю проста ў балота. Цмок, не разгледзеўшы дарогі, таксама туды бухнуўся — адны галовы тырчаць.

Хведар Набілкін лёгкі быў, як камар, то ён і выскачыў адразу, а Цмок так і засеў там, як корч.

Разглядзеўся Хведар Набілкін — моцна сядзіць Цмок у балоце, не паварушыцца нават. Схапіў ён Цмокаў меч, падняў сяк-так і давай страшылішчу галовы адсякаць. Адсек усе дзевяць галоў, меч у балота ўтапіў, а сам пайшоў назад пехатою: кабылку сваю з дрыгвы выцягнуць ніяк не здолеў.

Прышоў на луг, крычыць на асілкаў:

— Гэй, малайцы! Зараз-жа ідзіце ў дрыгвяністае балота, прывядзіце майго багатырскага каня. Я там з паганым Цмокам ваяваў, усе дзевяць галоў яму сцяў.

Пайшлі асілкі на дрыгвяністае балота, глядзяць — і праўда: валяюцца ў балоце ўсе дзевяць Цмокавых галоў!

— Вось-жа, — кажуць, — сіляка! Гэта-ж дзіва: утаптаў паганага Цмока ў дрыгву і ўсе галовы адсек яму! І чым? Глядзець няма на што: не меч, а каса нейкая ды і толькі!

Узяў Гаравік кабылку пад паху і прынёс гаспадару.

Яшчэ большая слава пайшла пра магутнага асілка Хведара Набілкіна. Дачуўся пра яго сам цар Храпун. Захацелася яму мець пры сабе такога слаўнага асілка, які дзевяцігаловага Цмока адолеў. Паслаў яму запрашэнне. З'явіўся Хведар Набілкін у палац. Цар справіў яму дарагое адзенне, даў лепшы ў палацы пакой, слуг і кухара да яго прыставіў.

Жыве Хведар Набілкін прыпяваючы.

Мінуў год, другі, а на трэці год выступіў супраць цара Храпуна злосны ды грозны суседні цар Хапун.

Сабраў ён такое войска, што вокам не акінеш, лікам не злічыш. Стаў ён з войскам ля сталіцы цара Храпуна і паслаў яму аб'яву: «Выклікаю цябе на бой!»

Напалохаўся цар Храпун, пытаецца ў Хведара Набілкіна:

— Што рабіць? Пераможа мяне цар Хапун...

— Не пераможа! — адказвае Хведар Набілкін. — Не турбуйся, бацюхна, ідзі спаць, я сам буду ваяваць.

Цар пазяхнуў салодка і пайшоў спаць, а Хведар Набілкін загадаў, каб усе краўцы, шаўцы, цесляры, сталяры з'явіліся ў сталіцу кожны са сваім струмантам.




І ўсе майстры з усяго царства з'явіліся ў сталіцу — цесляры з сякерамі, краўцы з іголкамі, сталяры з піламі, шаўцы з шыламі...

— Вышаў Хведар Набілкін да майстроў і кажа:

— За тры дні нарабіце мне сем палкоў драўлянага войска!

— Добра! — адказалі майстры. — Наробім! — І ўхапіліся за работу.

Як войска было гатова, Хведар Набілкін загадаў:

— Выставіць усё драўлянае войска ноччу за горадам!

Так і зрабілі. А сапраўднае войска Хведар Набілкін схаваў у кустах.

Прачнуўся раніцай цар Хапун, бачыць, стаіць супраць яго сем палкоў войска цара Храпуна — значыць, пара вайну пачынаць. Дае ён каманду:

— Адкрыць агонь!

Цэлы дзень стралялі салдаты цара Хапуна. Увесь порах спалілі, усе патроны страцілі, а нікога не забілі!

Дзівіцца цар Хапун: ці не зачараванае войска выставіў цар Храпун?

Тым часам Хведар Набілкін даў каманду пускаць у работу сапраўднае войска.

Выбеглі яго салдаты з кустоў ды давай страляць па войску цара Хапуна. Стралялі, стралялі — усё войска перабілі, а самога Хапуна ў палон захапілі і да цара Храпуна прывялі.

Пабудзіў яго Хведар Набілкін і кажа:

— Што загадаеш, бацюхна, з палонным рабіць?

Працёр цар вочы, бачыць — стаіць перад ім звязаны Хапун. Зарадаваўся цар, падхрабрыўся.

— У пушку яго, — кажа, — зарадзіць і выстраліць у той бок, адкуль прышоў.

Так і зрабілі.

Паехаў цар за горад, паглядзеў — усё варожае войска покатам ляжыць, а яго ўсе салдаты жывыя і здаровыя.

— Як гэта табе ўдалося? — пытаецца цар у Хведара Набілкіна. — У Хапуна-ж сілы ў тры разы больш было...

— Я, — кажа Хведар Набілкін, — ваюю не сілаю, а розумам.

Паставіў тады цар Храпун Хведара Набілкіна самым галоўным начальнікам над сваім войскам, а сам пайшоў спаць.

Спаў ён спакойна, бо ніхто з суседніх цароў цяпер і не падумаў ісці на яго вайною.



## Гавораць творчая моладзь



### З вялікім хваляваннем

У выніку сваёй не вельмі працяглай работы ў тэатры я пераканаўся, што толькі праца можа прынесці акцёру поспех і радасць творчасці.

Калі я яшчэ не працаваў у тэатры, я чытаў аб гэтым у такіх карыфеяў сцэнічнай праўды, як Станіслаўскі, Шчэпкін. Тады я не надаваў гэтаму асаблівага значэння. Толькі непасрэдна за працай на сцэне я зразумеў, якая вялікая настойлівасць і ўпартасць патрэбны для акцёра.

Чатыры гады таму назад мне, тады яшчэ студэнту трэцяга курса тэатральнага інстытута, даручылі выконваць ролю маладога Леніна ў спектаклі І. Папова «Сям'я». Я быў вельмі занепакоены тым, ці спраўлюся з гэтай працай. Гэта-ж мая першая роля ў тэатры, і прытым такая адказная!

Першыя крокі ў працы над гэтай роляй былі вельмі няўдалымі. Я губляўся, быў скаваны, нясмелы.

Я прачытаў многа мастацкай і палітычнай літаратуры аб вялікім Леніне. Дзякуючы ўпартай працы, настойлівасці, дапамозе з боку калектыва тэатра, я знайшоў верны шлях да раскрыцця вобраза.

З кожным днём роля станавілася для мяне больш даступнай, больш зразумелай. А калі на першым спектаклі я ўбачыў, як глядач горача прымае вобраз Валодзі, я зразумеў, што справіўся з даручанай мне задачай.

Вось ужо чатыры гады я выконваю ролю маладога Леніна і кожны раз адчуваю трывогу і хваляванне, усё лепш адшліфоўваю яе.

Калі ў мяне пытаюць, якую ролю я больш за ўсё люблю, я не задумваючыся адказваю: ролю маладога Леніна. Ды і як можна не любіць яе! Я сыграў гэтую ролю больш сямідзесяці разоў і выконваю яе з такім-жа хваляваннем, як у першым спектаклі.

Другой маёй любімай роляй з'яўляецца роля Пятра са спектакля М. Горкага «Апошнія». Па свайму зместу яна супрацьлеглая першай. Калі Ульянаў цвёрда ведаў, што яму рабіць, якія прынцыпы адстойваць у жыцці, дык Пётр з «Апошніх» — слабы, часам бездапаможны, ён не можа зразумець жыццё. У канцы п'есы ён становіцца на шлях выкрыцця свайго бацькі, але тут-жа ў яго апускаюцца рукі і ён кажа: «Калі-б я верыў у бога, дык пайшоў-бы ў манастыр».

Цяпер я працую над галоўнай роляй у спектаклі Гальдоні «Ілгун». Праца вельмі цікавая, але і складаная. Тут патрабуецца ад акцёра добрая пластыка, выразная дыкцыя, тэмперамент.

Ю. ГАЛКІН,
артыст Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.

## Адкуль пайшлі паны на Палессі

Даўно гэта было. Нават старыя людзі таго ўжо не памятаюць. І расказваюць яны тое, што чулі ад бацькоў і дзядоў.

Ну дык вось. Густымі палескімі лясамі прабіраўся адвячоркам чорт у сваё балота. Быў ён страшэнна пахмуры, бо за цэлы доўгі дзень не ўдалося зрабіць людзям ніякай



шкоды. А які-ж з яго пасля гэтага чорт? Цяпер хоць ты і не паказвайся ў пекла — засмяюць яго там!

Цягнецца гэтак злосны чорт, невясёлыя думкі грызуць яго нутро. І раптам бачыць — імчыцца дарогаю пан з Варшавы. Спераду гайдукі едуць, ззаду таксама, а пан пасярэдзіне ў карэце на мяккіх падушках сядзіць. Вусы ў бакі тырчаць, як у жука-караеда, шапка з трыма рагамі, чобаты чырвоныя, паясы-кутасы залачоныя... Адным словам, на сто сажняў панам пахне!

Перагарадзіў чорт дарогу, вылупіў вочы, дзівіцца — ніколі на Палессі такога пудзіла не бачыў!

— Прэч з дарогі, пся крэў! — закрычаў пан на чорта і грозна заварушыў вусамі.

Чорт ні з месца.

— Аб'едзеш, — кажа, — калі табе трэба.

Фанабэрысты пан аж пачарнеў ад злосці:

— Гэй, гайдукі, усыпце яму дваздесьце пеньць!

Заляскалі гайдукі бізунамі і кінуліся да чорта. А той пераскочыў іх, ухапіў пана за чуб і панёс над лесам, выскаляючыся.

Ляціць чорт і лупіць панам аб вяршыні дрэў.

Дзе аб дуб рэзнуўся пан — там адразу вырас новы пан Дубіцкі...

Аб бярозу грымнуўся — з'явіўся пан Бжэзінскі.

Як грыбы, растуць паны.

Аб сасну шаргануўся пан — вырас пан Сасноўскі, аб граб — Грабоўскі, аб елку — Ельскі, аб вярбу — Вярбіцкі, аб асіну — Асінскі...

Гайсаў, гайсаў чорт з панам, аж змарыўся. Паглядзеў, а ад пана адны шматкі засталіся: чыста схвастаў яго чорт!

«Што-ж з імі рабіць? — думае чорт. — Не цягнуць-жа іх у пекла?»

Узяў і растрос іх па зямлі. І ад іх пайшлі расці добрыя паны і падпанкі.

Так развяліся паны на Палессі — сам чорт пасеяў іх на пакуту людзям.

# Стары бацька

Даўней было так: як састарэе бацька, то сын завязе яго ў глухую пушчу ды і пакіне там...

Вось аднаго разу павёз сын бацьку ў пушчу. Шкада яму бацькі, — моцна любіў ён яго, але што зробіш? Не павязеш—людзі смяяцца будуць: старых, скажуць, звычаяў не трымаецца. Яшчэ з сяла выганяць...

Едзе ён так, маркотны, аж бацька і кажа яму:

— Няўжо ты, сынку, мяне ў пушчы аднаго пакінеш? Падумаў сын, змахнуў слязу і кажа:

— Не, бацька, не пакіну. Але для людзей хоць трэба зрабіць гэта. Уночы я прыеду да цябе, забяру і буду трымаць да смерці ў цёмнай каморцы, каб ніхто не бачыў.

Так сын і зрабіў. Як прыйшла ноч, прывёз бацьку з пушчы ды схаваў у цёмнай каморцы.

Здарылася няшчасце: град усё жыта выбіў і няма чым нават новага пасеяць.

Прышоў сын да бацькі ў цёмную каморку, бядуе:

— Што рабіць? Не пасеем жыта — і налета без хлеба будзем.

Бацька кажа:

— Не, сынку, пакуль я жыў, без хлеба мы не будзем. Слухай мяне. Як ты яшчэ малы быў, тады я гумно ставіў. А ў тым годзе быў вельмі-ж добры ўраджай. Дык я немалочаным жытам гумно накрыў. Здзяры страху, абмалаці і мецьмеш насенне.

Сын так і зрабіў. Садраў страху з гумна, абмалаціў і пасеяў увосень жыта. Суседзі і дзівяцца: адкуль ён насенне ўзяў? А сын маўчыць, бо нельга-ж прызнацца, што гэта стары бацька яго выратаваў.

Прышла зіма. Няма чаго есці. Зноў ідзе сын да бацькі ў цёмную каморку.

— Так і так, — кажа, — давядзецца з голаду паміраць...




— Не,—кажа бацька,—з голаду не памрэм. Слухай, што я табе скажу. Вазьмі рыдлёўку ды пакапайся ў хаце пад лаваю. Там я некалі, як быў яшчэ малады і дужы, закапаў трохі грошай на чорны дзень. Жыццё, сынку, пражыць — не поле перайсці: усё можа здарыцца. Так я думаў, так і рабіў.



Зарадаваўся сын, выкапаў бацькавы грошы і купіў збожжа. Сам з жонкаю і дзецьмі хлеб есць і старога бацьку корміць.

Суседзі з голаду пухнуць, а ён з хлебам жыве.

Вось яны і пытаюцца ў яго:

— Скажы нам, браце, адкуль ты хлеб бярэш?

Прызнаўся сын:

— Бацька, — кажа, — мяне корміць.

— Як-жа так, — дзівяцца суседзі. — Ты-ж страціў свайго бацьку, як і ўсе добрыя сыны!

— Не, — кажа ён, — я не рабіў так, як вы робіце, а пакінуў бацьку пры сабе дажываць веку. Затое, як прышла бяда, — бацька мне і дапамог. Старыя людзі больш розум маюць, чым маладыя.

Перасталі з таго часу сыны старых бацькоў у пушчу вазіць, а пачалі пад старасць шанаваць іх і дагледзець.

## Гавораць творчая моладзь



### Гісторыя адной рэплікі

Гэта было на адной з такіх рэпетыцый, калі акцёры яшчэ не зусім цвёрда помнілі тэкст ролі, але скразное дзеянне п'есы, яе ідэя абмеркаваны з рэжысёрам і кожны акцёр ужо добра ўсвоіў і характар і лінію паводзін свайго героя, хоць часам і збіваўся на тэксце, блытаючы ці забываючы словы сваёй рэплікі. Аднак вобразы ўжо лепяцца аб'ёмна, рэльефна і абрастаюць жывымі, трапнымі, характэрнымі і цікавымі камедыйнымі дэталямі, знойдзенымі рэжысёрам ці акцёрам.

Драматурга заўсёды хвалюе той момант, калі ён упершыню бачыць на сцэне сваіх герояў жывымі людзьмі. Тым больш, калі іх ролі выконваюць выдатныя, таленавітыя акцёры. На такіх рэпетыцыях бываць не толькі цікава, але і вельмі карысна.

У той раз рэпетыравалі другі акт п'есы «Выбачайце, калі ласка!»

Як толькі сцэна была падрыхтавана для рэпетыцыі, Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў двойчы пляснуў у далоні, падаючы знак: Ціха! Пачынаем!

— Прашу вас, — загадаў рэжысёр. І...

На двор да старшыні калгаса Гарошкі (ролю выконвае Глеб Паўлавіч Глебаў) убягаюць упаўмінзаг Моцкін (Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка) і разюшаны адказны раённы работнік Каліберaў (Барыс Віктаравіч Платонаў). У апошнім нумары абласной газеты іх раскрытыкавалі за ганебнае адставанне раёна з хлебапастаўкамі. Каліберaў прыехаў у калгас з задачай: нагнаць страху на Гарошку, абвінаваціць яго ў сямі смертных грахах, каб прымусіць старшыню выканаць завышаны звыш меры графік хлебапаставак, нават калі такое выкананне будзе шкодзіць калгаснай справе. Гэты кар'ерыст і дэмагог, каб больш настрашыць Гарошку, абзывае яго сабатажнікам, абвінавачвае ў прыватніцкіх настроях і кулацкай тэндэнцыі, карацей кажучы, — на фармуліроўкі не скупіцца. Сцэна ішла дынамічна, востра, акцёры ігралі з запалам, горача, сапраўды пераўвасобіўшыся ў вобразы.

Каліберaў, свідруючы запалоханага Гарошку грозным начальніцкім позіркам, загадвае такім тонам, які нічога добрага не абяцае: «А вы, таварыш Гарошка, паслязаўтра з'явіцеся на пасяджэнне. Там разбярэмся! Мы не можам цярпець адставання раёна... Хлеб — гэта...»

І раптам Барыс Віктаравіч збіўся на слове: ці то ён забыўся апошнія словы рэплікі, ці зблытаў іх з другой рэплікай. А Глеб Паўлавіч стаіць перад грозным Барысам Віктаравічам на выцяжку і чакае — якая-ж ісціна зляціць з вуснаў «граммавержца». Нарэшце ён здагадаўся выручыць партнёра і нясмела падказаў: «...асноўа савецкай эканомікі».

— Пані-імаць трэба! — павучальна выгукнуў Барыс Віктаравіч Глебаву.

Усе, хто быў на рэпетыцыі, зарагаталі, як кажуць, узяўшыся за жываты. І сапраўды было смешна: салідны, пажылы чалавек, Гарошка стаіць перад Каліберавым навыцяжку, як навабранец перад генералам, і нечым вельмі нагадвае малога школьніка, які паўтарае з чужога голасу завучаную, зазубраную і бязглуздую думку, якую ён, напэўна, дзесяткі разоў чуў ад свайго начальніка. І тое, што канец рэплікі дасказаў замест Каліберава Гарошка, надавала яшчэ адну трапную камедыйную фарбу ва ўсёй гэтай сцэне і дапаўняла характары і таго і другога новым штрыхом.

Вось так і захавалася ў спектаклі гэта выпадковая, але цікавая знаходка.

**А. МАКАЁНАК.**

# Любімы спектакль



Сёння ў зале Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета асабліва многа моладзі. Па-святочнаму настроеныя гледачы з цікавасцю прaглядаюць праграмкі, па некалькі разоў перачытваюць прозвішчы выканаўцаў.

Пачынае збірацца аркестр. У агульным рознагалосым гуле чуюцца знаёмыя музычныя фразы. Па выгляду аркестрантаў бачна, што сёння і яны ўсхваляваны.

Сёння ідзе любімы спектакль!

Пройдзе яшчэ некалькі хвілін, гадзіннік пакажа палову восьмай, пагасне люстра, і ўвага ўсёй залі будзе прыкавана да ледзь падсвечанай лямпай фігуры дырыжора.

Усё змоўкла. Усё замёрла ў чаканні. Лёгкі і разам з тым надзвычайна чоткі ўзмах дырыжорскай палачкі, і зала запоўнена бессмяротнымі чароўнымі гукамі.

Сёння ідзе любімы спектакль! Сёння ідзе «Яўгені Анегін»!

Заўсёды юны твор, славуты помнік светлага генія Пушкіна і Чайкоўскага, «Яўгені Анегін» не сыходзіць са сцэны ўсіх оперных тэатраў краіны. Кожны сезон паказвае гэтую оперу і наш тэатр. Але ў гэтым годзе, рыхтуючыся да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве, калектыў узяўся за ажыццяўленне новай пастаноўкі любімай оперы. Вырашылі, што ўсе асноўныя партыі оперы будуць выкананы моладдзю. Такое рашэнне не было выпадковасцю. Вядома, што П. І. Чайкоўскі, ствараючы «Яўгенія Анегіна», марыў якраз аб маладых выканаўцах. Ён быў пераконаны, што іменна моладзь зможа найбольш праўдзіва і ярка раскрыць і перадаць гледачу вобразы яго герояў, музычны бок оперы.

І моладзь цвёрда ўзяла ў свае рукі лёс спектакля.

Хваляванне гледачоў не было дарэмным. Грамадскасць цёпла адзначыла поспех новай пастаноўкі.

Як-жа працаваў тэатр над операй? Які шлях пройдзены спектаклем, пачынаючы ад першай яго задумы ў новым варыянце?.. На гэтыя пытанні адказаў нам пастаноўшчык «Яўгенія Анегіна» малады рэжысёр О. М. Маралёў.









Як і ў кожнай творчай працы, перш за ўсё работа калектыва была падпарадкавана часу. На здымку паказана адна з першых нарад пастановачнай групы. Хормайстар Н. Д. Прысёлкаў, дырыжор заслужаны дзеяч мастацтва БССР Т. М. Каламійцава, рэжысёр О. М. Маралёў і загадчык пастановачнай часткі А. М. Радыёнаў заняты складаннем плана-графіка выпуску спектакля.

Пачаліся заняткі салістаў, аркестрантаў, хору. Заслужаны артыст рэспублікі Л. Ф. Бражнік быў сфатаграфаваны ў класе, калі ён разам з канцэртмайстрам М. І. Радыке развучваў партыю Грэміна.

Шматлікія вытворчыя цэхі тэатра атрымалі новыя заказы. Энергічна ўзяліся за работу цесляры, сталяры, мэбельшчыкі, бутафоры, краўцы. Вось машыніст сцэны А. Пісаронак, брыгадзір І. Гадзяцкі і загадчык машынна-дэкарацыйнага цэха А. Кандрашоў атрымалі ўжо магчымасць узяцца за мантаж







дэкарацый да шостай карціны. Першымі, на зусім яшчэ пустой сцэне, з'явіліся з-пад падлогі дзве калоны. А ў выніку ўсёй працы прад гледачом — запоўненая гасцямі раскошная зала, такая, як паказана яна на першым нашым здымку.

Многа і цікава папрацавалі мастакі. Па эскізах галоўнага мастака Мамантава пісаліся дэкарацыі, шыліся касцюмы, рабілася стыльная мэбля. Наступны здымак і быў зроблены ў адным з пакояў пятага паверху тэатра, дзе група мастакоў абмяркоўвала эскізы дэкарацый: (злева направа) — В. Кульваноўскі, М. Чэпік, І. Санін, П. Калейнік, І. Пешкур і М. Блішч.

У новай пастаноўцы надзвычай многа святла. Над складанай светавой партытурай з поспехам папрацаваў электрацэх, які ўзначальвае малады спецыяліст С. Пякарскі. У час дзеяння на сцэне асвятляльнікі на дзіва лёгка і хутка арыентуюцца сярод мноства ўсялякіх пражэктараў, люстраў, кандэлябраў. Яны то ствараюць ілюзію світання, то яркага сонечнага дня, то ззяння хрустальных люстраў.

Вельмі адказнай была і работа грымёраў. Трэба было зрабіць вялікую колькасць парыкоў, якія перадавалі-б характэрныя асаблівасці прычосак пушкінскага часу. Вось адзін з вопытнейшых работнікаў гэтага цэха — старэйшы майстар М. Е. Рамашкевіч рыхтуе да выхаду на сцэну заслужаную артыстку рэспублікі Р. Асіпенка, якая выконвае ролю Ольгі. Абмеркаваннем яе прычоскі занята і заслужаная артыстка рэспублікі Т. Шымко, якая вядзе партыю Таццяны.

Але вось нарэшце — дзень прэм'еры. Гледачы запоўнілі залу тэатра. У гэты момант Ленскі ўжо дзесяты раз праверыў перад люстэркам, ці добра ён апрануты.

Стрэлкі гадзінніка набліжаюцца да паловы восьмай, і памочнік рэжысёра В. Н. Чыслова (здымак уверсе злева), уключыўшы мікрафон, абвяшчае па ўсіх закулісных памяшканнях:

— Таварышы! Пачынаем спектакль! Удзельнікаў першай карціны прашу на сцэну!

Любімы спектакль пачаўся.

Фотанарыс А. Дзітлава.

## Гаворыць творчая моладзь

### З дапамогай вопытных акцёраў-педагогаў

З вялікай радасцю даведаўся я, што кіраўніцтва нашага тэатра даручае мне спяваць партыю Сяргея ў оперы Я. Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся». Сюжэт і музыка оперы глыбока ўсхвалявалі мяне, і я з цікавасцю ўзяўся за працу.

Неабходна было стварыць вобраз маладога калгаснага брыгадзіра, які ў суровы для Радзімы час стаў мужным яе абаронцам.

Яшчэ ніколі мне не даводзілася працаваць так упарта, так настойліва. Рэжысёр Вялікага тэатра Саюза ССР Г. П. Анісімаў нярэдка праводзіў са мной гутаркі па ўсёй оперы, па маёй партыі і па асобных сцэнічных эцюдах. Патрабуючы выразнага выканання і ведання сцэнічнага малюнка, ён ніколі не даваў добрую ацэнку маёй працы. Гэтае скрытае пачуццё стрымлівасці падганяла мяне, прымушала шукаць нешта новае ў вобразе Сяргея.

У рабоце над партыяй Сяргея мне дапамагалі таксама народная артыстка Л. П. Александроўская, заслужаны дзеяч мастацтва БССР Л. В. Любімаў і канцэртмайстар тэатра С. Л. Талкачоў. Радасна і прыемна працаваць на рэпетыцыях пад кіраўніцтвам такіх таленавітых настаўнікаў, якія самі прайшлі слаўны шлях артыста!

Гледачы добра сустрэлі спектакль. Опера прайшла з поспехам.

У апошні час я працаваў над стварэннем вобраза Ленскага ў оперы П. І. Чайкоўскага «Яўгені Анегін». Опера гэтая падрыхтавана выключна маладымі творчымі сіламі нашага тэатра, што супадае з пажаданнем вялікага рускага кампазітара П. І. Чайкоўскага, які хацеў, каб яго опера ўпершыню была выканана сіламі студэнтаў кансерваторыі. Жамчужына рускай класікі будзе паказана намі на сцэне Вялікага тэатра ў Маскве.

З усёй адказнасцю перад тэатрам і народам я пастараюся сваёй працай паказаць працоўным Масквы творчы рост опернага мастацтва Савецкай Беларусі.

Г. ДЗМІТРЫЕЎ,
саліст оперы Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.



# Слуцкія ткачыхі

**П. МІСЬКО**

Не так даўно старшыня Слуцкай арцелі «Першае мая» Пётр Міхайлавіч Шарупін і сакратар камітэта камсамола Вольга Янкоўская варашылі пазнаёміць рабочых з гісторыяй свайго прадпрыемства. Пётр Міхайлавіч павёў расказ аб мінулым.

... Яшчэ ў пачатку другой палове восемнаццатага стагоддзя Віленскі ваявода Міхаіл-Казімір Радзівіл, аб'язджаючы свае уладанні, быў уражаны майстэрствам і прыгажосцю тканых вырабаў случчан. Хітры ваявода зразумеў, што на гэтым можна нажыцца. Ён загадаў адкрыць у Слуцку фабрыку па вырабу літых персідскіх паясоў, на якія ў той час была мода і вялікі попыт. На чале адкрытай мануфактуры быў пастаўлены выдатны майстар ткацкай справы Лео Мажарскі. У вялікай хаціне ўстанавілі 25 ткацкіх станаў. З навакольных вёсак і з самога Слуцка сілком сагналі прыгонных. Штогод ткачыхі ткалі больш чым па 200 паясоў — выдатных узораў мастацтва.

... Уважліва слухалі расказ Пятра Міхайлавіча сённяшнія вышывальшчыцы. Пасля паднялася адна з іх — Люба Башура. Крыху хвалюючыся, яна пачала дэкламаваць верш Максіма Багдановіча, радкі якога надоўга запомніліся дзяўчатам...

Ад родных ніў, ад роднай хаты  
У панскі двор дзеля красы  
Яны, бяздольныя, узяты  
Ткаць залатыя паясы...  
Цямнее край зубчаты бору...  
І тчэ, забыўшыся, рука,  
Заміж персідскага узору,  
Цвяток радзімы васілька.

Люба скончыла чытаць. Тады выступіла тэхнарук Вольга Янкоўская:

— У 1844 годзе майстэрня закрылася з-за недахопу сродкаў і матэрыялаў. Ткачыхі вымушаны былі разыйсціся па навакольных вёсках, наймацца парабчанкамі. Свае майстэрства яны перадавалі народу. Я ўжо каля дванаццаці год у вышывальных арцелях раблю. Была ў Хойніках, у Оршы, тут ужо гады чатыры. Часта прыходзілася мне ездзіць па вёсках, вышукваць узоры народнага мастацтва. Колькі я розных посцілак, абрусаў, ручнікоў, паясоў перабачыла! Ды ўсё такія, што дзіву проста даешся. А душу перапаўняе гонар — гэта-ж наш народ беларускі такі майстар-мастак, такі творца прыгажосці...




Твар Вольгі свяціўся натхненнем. Маладым позіркам яна акідвала сваіх сяброўак па працы — і ўсюды бачыла ўсхваляваныя твары, а ў вачах — агеньчыкі захаплення...

— Вельмі многія ўзоры мы пераймалі, развівалі далей, вышывалі і ткалі, — працягвала яна. — Слуцкіх паясоў бачыла фасонаў дзесяць. Праўда, тады ў нас яшчэ думкі не было, каб аднавіць гэтае цудоўнае мастацтва і асвоіць выпуск паясоў. І вось, таварышы, мне здаецца, што мы павінны ўзяцца за гэта зараз і ўзяцца сур'ёзна. Сілы ёсць у нас, а ўзоры таксама знойдзем, знойдзем і майстра, які зможа паказаць нам, як ткаць.

— Ды такія майстры ёсць! — не вытрымала Наташа Галяка. — Да вайны ў нашай арцелі працавала некалькі старых. Яны павінны ведаць, як ткаць гэтыя паясы.

Ткачыхі, вышывальшчыцы ажыўлена загаварылі, кожная пачала ўслых успамінаць, у якіх вёсках раёна, у каго з жыхароў горада ёсць гэтыя рэдкія па прыгажосці і майстэрству тканыя вырабы, мастацкая вышыўка.

— Дзяўчаты, давайце спецыяльна зоймемся зборам узораў народнай творчасці, — прапанавала Люба Башура.

З таго незвычайнага вечара прайшло не шмат часу, а колькі цікавых рэчаў ужо назбірана! Недзе дзяўчаты здабылі і вялізны альбом з узорамі нацыянальнага беларускага арнаменту. А Вольга Янкоўская ездзіла аж у вёску Макраны пад Семежава. Адтуль яна прывезла два «слуцкія паясы».

— Гэта добра, што вы там цікавіцеся паясамі, — сказала Вользе старая ткачыха, — што самі ткаць іх парашылі... — Яна нeяк з гордасцю выпрасталася і затупала ў сенцы. Доўга порпалася там у вялізным куфры. — Вось, калі трэба, — вазьмі. Я-б табе сама паказала, як іх ткаць, але прычындалаў ніякіх няма. Ды і вочы мае ўжо не вельмі бачаць.

Сатканыя з белых, чырвоных і зялёных шарсцяных нітак, паясы добра захаваліся. Калі з гэтай цікавай знаходкай Вольга прыехала ў Слуцк, тут яе чакала яшчэ адна радасць: Люба Башура і Наташа Галяка адшукалі недзе на Калгаснай вуліцы горада старую ткачыху. Яна падручылася саткаць пару паясоў пры ўмове, што ёй дадуць які-небудзь стары пояс, каб раскідаць яго і паглядзець, успомніць.

Пояс, вытканы старой ткачыхай з нітак мулінэ, прышоўся да спадобы ўсім вышывальшчыцам. Яго паказалі ў Мінску ў Белпрамсовеце і атрымалі дазвол ткаць

---

## Гавораць творчая моладзь

### Праца балерыны

Мая маці вельмі любіла балет і сама марыла стаць балерынай. Рана асірацеўшы, яна так і не здолела ажыццявіць сваю запаветную мару. Але гэтую любоў да балета яна заўсёды імкнулася выхаваць у мяне. У дзіцячыя гады я ўдзельнічала ў самадзейным гуртку пры Ленінградскай абутковай фабрыцы «Скараход», на якой працавала маці. У той час мне здавалася чамусьці, што балет — вельмі лёгкая і займальная справа. Нават пазней, паступаючы на вучобу ў Ленінградскае харэаграфічнае вучылішча, я таксама думала, што там мне давядзецца толькі танцаваць. Але ў вучылішчы я зразумела і адчула, што балет — не такая лёгкая справа і што стаць балерынай не так проста, як гэта мне здавалася раней.

На працягу вучобы былі ў мяне і расчараванні і слёзы. Праўда, усё гэта не перашкодзіла настойліва авалодваць майстэрствам і ісці па абранаму шляху.

Штодзённая праца над спектаклем вельмі цяжкая. Яна патрабуе спалучэння тэхнічнага выканання і акцёрскага майстэрства. Увесь тэхнічны працэс працы над роляй, якую трэба рэпетыраваць, праходзіць не толькі ў зале. Акрамя рэпетыцый, балерыне неабходна настойліва працаваць дома, штодзённа трэніравацца. Без гэтага яна ніколі не зможа танцаваць з поспехам на сцэне.

Прыступаючы да стварэння пэўнага вобраза, яна павінна добра азнаёміцца з мастацкім творам, паводле якога напісана лібрэта балета. Для таго, каб выканаць ролю Эсмеральды ў аднайменным балеце Пуні, мне спатрэбілася дасканала ведаць раман «Сабор парыжскай багамацеры» В. Гюго.



На працягу апошніх год я выконвала ў нашым тэатры ролі: Зарэмы ў «Бахчысарайскім фантане» Асаф'ева, Эсмеральды ў аднайменным балеце Пуні, Ліза ў «Доктары Айбаліце» Марозава, феі Сірэні ў «Спячай красуні» Чайкоўскага, а таксама характэрныя танцы ў операх «Кармэн», «Князь Ігар», «Лакмэ», у балеце «Іспанскае капрычыо» і іншых.

Працуючы ў тэатры, я пераканалася ў тым, што балет — гэта мастацтва, для авалодання якім неабходна штодзённая і настойлівая праца.

**В. КРЫКАВА,**  
салістка балета Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.




такія паясы, а заадно і мужчынскія гальштукі.

Ахвотнікаў набыць новую прафесію знайшлося многа. Але Вольга Янкоўская і старшыня арцелі вырашылі адабраць з іх толькі шэсць чалавек самых лепшых, бо справа была нялёгкая.

Люба Башура і Наташа Галяка адгукнуліся першымі. Пра той пачатак Любе нават сорамна цяпер успамінаць. Як жыхар горада, яна ні разу не бачыла, як ткаліся самыя звычайныя посцілкі, палотны, а не то што паясы. У адчаі яна аднойчы кінула паясы і зноў узялася за вышыванне. Настрой быў такі кепскі, што ад нервовай узрушанасці дзяўчына не бачыла нават перад сабой вышывання і некалькі разоў калола пальцы іголкай. Так і прасядзела з пахмурым, акамянелым тварам да канца работы.

Доўга і настойліва давялося папрацаваць, і нарэшце прышла першая ўдача... Люба гатова была цалаваць гэтую незвычайную па прыгажосці, бліскучую двухметровую палоску тканіны. На ўсёй палосцы, не даходзячы крыху да махроў, пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі ўзоры беларускага арнаменту.

Дзень толькі пачынаўся, а ў паветры ўжо нерухома павісла срабрыстае павуцінне. Люба адчыніла акно і на ўсе грудзі з асалодай удыхнула духмянае паветра. У памяшканне ўварваўся пах яблык. Дзяўчына акінула позіркам пазалочаныя дрэвы — ужо не знойдзеш ніводнага яблычка, нават лісце напалову абляцела... «Адкуль-жа гэты пах?»

Люба глыбока ўздыхнула і села на табурэт ля акна, нахілілася над вышываннем і задумена заспявала. Голас яе, глыбокі, грудны, крышку дрыжыць ад натхнення, ад нейкага прыгожага смутку.

Дзяўчаты прыслухаліся, як заміраюць-трымцяць гукі, а потым ціхутка і душэўна паўтарылі:

«Ой ты, белая бярозанька...»

З адчыненых дзвярэй другога пакоя, дзе размясціўся цэх ручной вышыўкі, вырвалася-выплыла на волю шматгалосая хваля:

«Ой ты, белая бярозанька,
Ці не цёмненька табе?»

— Гатова адна! — урачыста дакладвае Наташа і знімае з рамы вялізны маток рознакаляровых нітак — аснову для першага сённяшняга слуцкага пояса. Учора вечарам распрацоўвалі для пояса новы від узору, і Наташа, якая спецыялізавалася толькі на снаванні, не паспела падрыхтаваць аснову для ўсіх ткачах.

— А не пераблытала ніткі? — знарок строга спытала Люба. Ёй, як лепшаму майстру, заўсёды прыходзіцца першай ткаць новы ўзор.

На заўвагу Любы дзяўчаты ўсміхнуліся і вышывалі далей. Час трэба эканоміць. Пакуль Наташа наснуе для астатніх чатырох ткачах, можна вышыць два, а то і больш ручнікоў. Люба адклала вышыванне і надзела адзін канец матка-асновы на адшліфаваную палачку, што прымацавана да падаконніка, а другі — на палачку, прыкручаную да пояса. Тонкімі пальцамі яна стала спрытна перабіраць ніткі. Секунда — і праз калідорчык, што ўтварыўся паміж ніткамі, мільгануў своеасаблівы чаўнок з утком. Невялічкай дошчачкай яна прыстукнула нітку. Гэта «бёрда».

— А наблытаць вельмі лёгка, калі не будзеш увесь узор у галаве трымаць. Адну нітку не туды паклаў — брак. Зацягнуў бераг крышку тужэй—зноў брак...— ціха сказала Люба.

У адказ на яе словы пачуўся цяжкі ўздых Наташы:

— Ты, Люба, як у ваду глядзіш...

Ткачыхі весела смяюцца, гледзячы на разгубленую Наташу. Люба падыходзіць да дзяўчыны.

— Не хвалюйся, бо ў цябе на другой аснове заўсёды з-за гэтага памылкі. Увагу паслабляеш... Колькі ўчора нітак па новаму ўзору вырашылі на бераг класці?

— Дваццаць чатыры. З іх адзінаццаць салатавых, дзесяць карычневых і тры чырвоныя, — без роздуму пералічыла Наташа.

— Правільна. А ў цябе тут... — Люба хуценька падлічыла, — дванаццаць карычневых. Дзве не туды паклала...

Са скрыпам расчыніліся дзверы.

— Дзень добры, дзяўчаткі! — прывіталася Вольга Янкоўская.

Дзяўчаты паднялі галовы, ветла адказалі.

— Нешта цішыня ў вас сёння, быццам засумавалі чаго, — жартавала яна, разглядаючы ўзор на поясе, які ткала Люба.

— Ой, няпраўда, толькі што спявалі...

— А ведаеце, дзяўчаткі, у нас сёлета будзе новы будынак для арцелі, — сказала Вольга Янкоўская. — Пётр Міхайлавіч запэўніў. Сёння была ў нас з ім размова наогул цікавая.

— А пра што-ж гэта?

## Гавораць творчая моладзь

### Мая слаўная маці-Радзіма



**Пасля Вялікай Айчыннай вайны я скончыў тэхнікум чыгуначнага транспарту і паехаў працаваць у Магілёў. Там працаваў у вагонным дэпо і ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Я вельмі люблю музыку і сам спрабаваў ствараць музычныя творы. Таварышы па рабоце заўважылі мае здольнасці і параілі мне паступіць у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.**

**Цяпер я займаюся на чацвёртым курсе кансерваторыі па класу кампазіцыі пад кіраўніцтвам лаўрэата Сталінскай прэміі кампазітара А. В. Багатырова. Напісаў некалькі твораў. Самым буйным з іх з'яўляецца «Паэма-легенда» па матывах паэмы Янкі Купалы «Магіла льва».**

**У музыцы «Паэмы-легенды» я імкнуўся адлюстраваць гераічнае мінулае беларускага народа. Праз усю паэму праходзіць вобраз народнага героя Машэкі — барацьбіта супраць няволі, за шчасце людзей. Побач з ім падаецца вобраз дзяўчыны з народа, глыбока лірычнай, прывабнай у сваіх пачуццях і дзеяннях. Машэка разам з народам вядзе жорсткую барацьбу супраць «цёмных сіл» і гіне ў няроўным баі. Але справа яго жыве, іскра, кінутая ім, запальвае полымя ўсенароднай барацьбы.**

**Я бясконца ўдзячны нашай роднай уладзе, нашай партыі за іх няспынныя клопаты аб савецкім мастацтве. Сваімі музычнымі творамі я буду ўслаўляць веліч нашага жыцця, шчасце савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма.**

**Я. ГЛЕБАЎ.**

— Ды ўсё наконт электраматораў... Патрабавалі, каб зноў вышывальныя машыны паставілі на электраматорную цягу. Можна тады будзе і працу аблегчыць і выпрацоўку шмат павысіць...

— Гэта добра, — загаманілі вышывальшчыцы.

— А цяпер, дзяўчаткі, самае цікавае: у Слуцк хутка прыедуць дэлегацыі з Польскай і Чэхаславацкай рэспублік. Будзем рыхтаваць падарункі — беларускія нацыянальныя касцюмы. Вам трэба гальштукі і паясы падрыхтаваць. Давядзецца нямала папрацаваць.

— Ой, а калі не ўправімся? — спалохана прамовіла Наташа Галяка.

— Управімся, — упэўнена заявіла Люба. — Памятаеце, таксама баяліся, каб не сапсаваць касцюмы, калі «Несцерку» на кіно здымалі. Зрабілі-ж!

... Той дзень, калі ўручалі брацкім дэлегацыям падарункі, надоўга запомніўся Любе Башура. Цяпер пра слуцкія паясы будуць ведаць далёка за межамі роднай рэспублікі, будуць захапляцца імі, любімай, работай.

... На пакрытую першым снегам зямлю павольна сышоў марозны вечар. Рабочы дзень закончаны. А ў пакоі, дзе працавалі ткачыхі, ярка свеціцца акно. Над шырокім сталом схіліліся некалькі жаночых галоў. На стале клубкі з рознымі шаўковымі ніткамі, рассыпана мноства каляровых алоўкаў, раскіданы аркушы паперы з малюнкамі і ўзорамі. Разам з ткачыхамі — тэхнарук Вольга Янкоўская. Часта ўспыхваюць спрэчкі.

— А мне здаецца, што сюды трэба дабавіць замест ружовых нітак па дзве малінавыя. Кожны ромбік атрымаецца як у рамачцы.

— У цябе густ дрэнны...

— А што, дзяўчаткі, калі выткаць узор з васількоў, як Максім Багдановіч пісаў, памятаеце?..

— Табе, Люба, літаратуру ў школе выкладаць, а не ткачыхаю быць.

— А што ты думаеш... Можа калі-небудзь і буду. Яшчэ тры гады — і закончу дзесяцігодку, а там...

На паперы ўзнікаюць усё новыя і новыя ўзоры.

Да дэкады беларускага мастацтва і літаратуры арцель падрыхтавала шмат сваіх вырабаў — беларускія нацыянальныя касцюмы, прыгожа вышытыя сукенкі і блузкі, ручнікі, навалачкі. Затрымка вышла толькі з паясамі. Пасля доўгіх спрэчак вырашылі пояс ткаць у 12 сантыметраў шырыні і два метры даўжыні. Але як з узорам? Трэба стварыць нешта цікавае, прыгожае, дасканалае, каб, хто ні зірнуў-бы на яго, мог сказаць, што ў працу ўкладзена душа, цудоўная душа беларускага народа...

Назаўтра Люба Башура і многія іншыя ткачыхі ўжо селі за тканне гэтага новага цудоўнага пояса.

# ТАЛЕНАВІТЫ ПЕЙЗАЖЫСТ

Узгоркі, дрэвы, прыгожыя беларускія краявіды — усё гэта знаходзіць яркае адлюстраванне ў карцінах маладога мінскага пейзажыста Васіля Краўцова. Намаляваць пейзаж — гэта не простая справа. Неабходна любіць прыроду, умець выбраць сапраўды прыгожы куток і перадаць праз яго настрой, які зрабіў-бы пэўны ўплыў на гледача, выхоўваў-бы ў ім эстэтычны густ.

У дзяцінстве, калі В. Краўцоў вучыўся яшчэ ў школе ў гарадскім пасёлку Буда-Кашалёва, у вольны час ён падоўгу любіў углядацца ў жывапісныя краявіды навакольнай мясцовасці. Аб назіральнасці хлопчыка сведчылі яго школьныя накіды алоўкам і акварэллю, а потым і маслам. Метадыст па выяўленчаму мастацтву Гомельскага абласнога дома народнай творчасці В. Уколаў, пазнаёміўшыся з работамі В. Краўцова, падтрымаў маладога мастака і рэкамендаваў яго пейзажы спачатку на абласную, а потым і на рэспубліканскую выстаўку самадзейных мастакоў (1946—1947 гг.). Буда-Кашалёўскія краявіды мастака былі цікавыя па колеру, але кампазіцыйна яны былі слабыя, у іх адсутнічаў самы галоўны кампанент пейзажнага жывапісу — настрой. Аднак і яны ўжо сведчылі аб тым, што Краўцоў здольны чалавек, што яму трэба развіваць свае схільнасці, вучыцца далей.

У 1947 годзе В. Краўцоў паступае ў Мінскае мастацкае вучылішча. Вучоба ўзбагаціла яго мастацкай культурай, навучыла прафесійным метадам працы. Закончыўшы вучылішча ў 1953 годзе, В. Краўцоў пайшоў працаваць метадыстам па выяўленчаму мастацтву ў Мінскі абласны дом народнай творчасці.

Вялікую ролю ў выхаванні мастацкага густу маладога мастака адыгралі цудоўныя пейзажы старэйшага беларускага пейзажыста Ул. Кудрэвіча.

Ужо на выстаўках у мастацкім вучылішчы ў пейзажах В. Краўцова адчуваўся настрой жыццерадаснасці, цеплыні і надзвычайнай абаяльнасці. Увагу наведвальнікаў прыцягвалі яго працы і на апошняй выстаўцы самадзейных мастакоў Мінскай вобласці.

Куды-б ні ехаў мастак, ён заўсёды бярэ з сабой эцюднік і робіць замалёўкі, збіраючы матэрыял для сваіх далейшых прац.

Найбольшае ўражанне пакідаюць яго летнія пейзажы, зробленыя на Барысаўшчыне і ў Буда-Кашалёве — «Балота», «Пад вечар», «Беларускі пейзаж». Кожная з гэтых прац мае свае асаблівасці, але ўсе яны аб'еднаны адным настроем — аптымізмам. «Летні пейзаж» і «Беларускі пейзаж» блізкія па матывах, але яны розныя па манеры выканання. Абодва пейзажы цікава зроблены кампазіцыйна. Добра дадзена перспектыва, якая гаворыць аб шырыні прастораў беларускай прыроды. Тонка мастак спалучае фарбы, што стварае ўражанне праўдзівасці.

Цяпер В. Краўцоў працуе над вялікай карцінай для рэспубліканскай выстаўкі выяўленчага мастацтва.

Пейзажы В. Краўцова прывіваюць гледачу патрыятычныя пачуцці, любоў да цудоўнай беларускай прыроды.

**А. ЕСАКОЎ.**






**«За мір» — скульптура С. Адашкевіча.**
Фото І. Салавейчыка.

# Запаветная мара

На рэспубліканскай мастацкай выстаўцы наведвальнікі падоўгу спыняліся ля невялікай статуэткі «За мір», зробленай маладым скульптарам Сяргеем Адашкевічам. Прозвішча аўтара было яшчэ мала каму вядома, але было відаць, што скульптар — таленавіты чалавек. Статуэтка — жанравы малюнак, занатаваны назіральным вокам мастака. Маладую прыгожую вышывальшчыцу моцна захапіла праца. Уся ўвага дзяўчыны накіравана да палатна, на якім вышыты дарагія ўсім людзям добрай волі словы — «Мір пераможа вайну».

Праца вышывальшчыцы не скончана, яна зацягвае нітку ў іголку, каб далей працягваць вышыванне. Верыш у тое, што сваю задуму вышывальшчыца давядзе да патрэбнай мастацкай выразнасці. Маладая жанчына жыве настроямі, якія хвалююць савецкіх людзей. Гэтыя настроі і падказалі скульптару сюжэт статуэткі, які выклікае ў нас глыбокі роздум.

Такім чынам, жыццёвы малюнак тыпізаваны і ўзвышаны мастаком да вобразнага абагульнення. Статуэтка, як бачым, уздзейнічае і хвалюе, набывае глыбокі сэнс. Яе кампазіцыя вельмі простая, скупая па колькасці дэталей, завостраная на асноўным моманце — захапленні вышывальшчыцы сваёй працай. Жыццёвасць і праўдзівасць моманту выяўлена з мастацкім умельствам, пластычнай пісьменнасцю і адчуваннем характара формы натуры.

Сяргей Адашкевіч з маленства адчуваў вялікую цягу да выяўленчага мастацтва. Сваю мару стаць скульптарам яму не адразу ўдалося ажыццявіць. Дзеля гэтага патрэбна была настойлівасць, упартыя намаганні, удумлівая і мэтанакіраваная праца, прафесійная пісьменнасць і глыбокія веды.

У 1935 годзе Адашкевіч пачаў вучыцца ў Віцебскім мастацкім вучылішчы. У калектыве таленавітай моладзі ён хутка авалодваў ведамі. Шмат маляваў, запаляўся складанай навукай, якая дазваляла мастаку свабодна выяўляць свае думкі і настроі. Асабліва ён быў узрушаны тады, калі яму даводзілася мець справу з глінай і з яе паслухмянай масы ствараць жывое падабенства натуры.

Заняткі па скульптуры прыносілі Адашкевічу вялікае задавальненне. Тут ён адчуваў, што больш за ўсё натхняецца, разумее і бачыць выяўляемы прадмет у яго пластычнай форме. Праз два гады Сяргей пакінуў вучобу ў мастацкім вучылішчы, якое не мела тады скульптурнага аддзялення, і паехаў у Мінск. Тут ён працаваў у майстэрні скульптара М. Керзіна. Пад кіраўніцтвам вопытнага майстра і выдатнага настаўніка прайшло два гады настойлівай працы і вучобы. Малады скульптар паспяхова авалодваў прафесійнымі навыкамі.

У 1939 годзе Адашкевіч быў прызваны ў армію і служыў у горадзе Горкім. У вольны ад армейскай службы час ён наведваў заняткі на скульптурным аддзяленні ў горкаўскім мастацкім вучылішчы. Ваенная служба не перашкаджала Сяргею вучыцца і ўдасканальваць свае веды. І тут ён знаходзіў час для любімай справы.

У 1946 годзе Адашкевіч дэмабілізаваўся з арміі і вярнуўся ў Мінск. Малады скульптар працягвае вучобу ў майстэрні М. Керзіна і адначасова працуе над жанравай скульптурнай групай «На птушкаферме». Гэтая яго работа была паказана ў 1949 годзе на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы, прысвечанай XXX-годдзю Беларускай ССР.

Першая самастойная работа не была пазбаўлена хібаў. Яна не поўна раскрывала ўнутранае харастство маладой калгасніцы, паэзію працы. Заганы першай кампазіцыйнай групы тлумачыліся недахопам майстэрства скульптара, які ўсё яшчэ шукаў блізкую тэму, вывучаў неабходныя пластычныя сродкі для сваіх сюжэтаў.

У 1950—1951 гадах Адашкевіч працаваў над афармленнем павільёна Беларускай ССР на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, для якога ён з поспехам выканаў фігуру агранома Праца над гэтым заданнем мела для маладога скульптара вялікае значэнне ў тым сэнсе, што ён увесь час атрымліваў карысныя для сваёй далейшай працы кансультацыі вопытных майстроў скульптуры.

Другой значнай работай скульптара з'явілася фігура партызана, устаноўленая на высотным будынку на Прывакзальнай плошчы ў Мінску. Затым была выканана фігура лётчыка па заказу Мінскага сувораўскага вучылішча і рад работ, прызначаных для новых палацаў культуры, тэатраў і іншых грамадскіх будынкаў.

Архітэктурныя асаблівасці і рознае грамадскае прызначэнне будынкаў, для якіх прыходзілася ствараць статуі, барэльефы, скульптурныя кампазіцыі на розныя тэмы, вымушалі мастака глыбока вывучаць жыццё і з багатых назіранняў і ўяўленняў браць змест для сваіх работ.

У 1951 годзе Адашкевіч выканаў статую рабочага. Работа была паказана на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы. Праз год пасля яе і была створана невялікая, але праўдзівая і хвалюючая статуэтка «За мір», якая мела поспех на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы ў 1953 годзе.

Сяргей Адашкевіч пранікнёна вывучае навакольнае жыццё, авалодвае майстэрствам. Мастака хвалюе запаветная мара — стварыць вобраз свайго сучасніка — мужнага і непахіснага змагара за светлую будучыню чалавецтва.

**П. ГЕРАСІМОВІЧ.**

# ДВА ШЛЯХІ

Як можна не любіць спяваць, Шура Науменка нават не ўяўляе. Самыя раннія ўспаміны дзяцінства звязаны ў яе з песняй. Спявала маці, займаючыся гаспадаркай, спяваў бацька — рабочы сцэны опернага тэатра. Праўда, дома з-за спеваў бывалі нават «рэпертуарныя» спрэчкі, бо шурынай маці былі больш па душы пранікнёныя народныя песні, а бацьку вабілі яркія, хвалюючыя мелодыі з опер. «Арбітрам» у такіх спрэчках выступала дачка. Часцей за ўсё ёй падабаўся рэпертуар і бацькі, і маці, і тады ў хаце усталёўваўся «мір».

На чатыры доўгія гады перастала гучаць песня ў сям'і Шуры, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Уласна кажучы, у гэтыя гады і сям'я перастала існаваць. Абараняючы Радзіму, загінуў бацька; маці пагналі на фашысцкую катаргу ў Германію; шасцігадовую Шуру з яе меншым братам забралі да сябе сваякі ў адзін з прыгарадаў Мінска. Каму і аб чым было спяваць? Хіба толькі аб горы.

Пераможны май 1945 года вярнуў Шуры маці. Паступова вярталася ў хату і песня. Але цяпер усё часцей ужо спявала Шура. Яна спявала, дапамагаючы па гаспадарцы маці, выступала ў канцэртах школьнага хору, салівавала ў Палацы піянераў. І ўсюды Шуры спадарожнічаў поспех. Слухаючы дачку, Марыя Міхайлаўна пачынала забываць аб вялікім горы, якое прынесла ёй вайна. За дасягненні ў вучобе і мастацкай самадзейнасці школа і Палац піянераў узнагароджвалі Шуру каштоўнымі падарункамі і пахвальнымі граматамі, а слухачы дарылі ёй шчырыя сімпатыі і захапленне.

Пасля заканчэння сямігодкі дзяўчына пачала працаваць матарысткай пашывачнага цэха швейнай фабрыкі імя Крупскай. Тутжа яна стала ўдзельніцай гуртку мастацкай самадзейнасці. Хутка яе прызналі на фабрыцы сваёй спявачкай.

Вопытны і чулы кіраўнік фабрычнай мастацкай самадзейнасці, З. П. Дзідэнка заўважыла талент Шуры Науменка і параіла дзяўчыне падумаць аб прафесійных занятках спевамі.

Камсамольскі камітэт і фабком прадпрыемства падтрымалі прапанову аб накіраванні Шуры на працу і вучобу ў творчую прафесійную арганізацыю. Так у адзін з асенніх дзён 1954 года Шура Науменка прышла ў Дзяржаўны хор БССР да кіраўніка хору народнага артыста рэспублікі Р. Р. Шырмы.

Чым больш спявала дзяўчына перад калектывам хору і вядомымі музыкантамі, якія былі запрошаны сюды, тым часцей мяняўся выраз іх тварау. Здзіўленне, радасць, захапленне — вось што можна было прачытаць у вачах гэтых аўтарытэтных і строгіх людзей. Дзевятнаццацігадовая спявачка здзіўляла прыгажосцю, роўнасцю гучання, шырынёй дыяпазону і музычнасцю свайго голасу.

Цяжка сказаць, што Шура тады выканала лепш з сваёй даволі вялікай праграмы. Але слухачоў захапіла яе шчырасць, непасрэднасць у перадачы вобразаў родных беларускіх песень. Гэтыя вобразы рабіліся жывымі, адчувальнымі, прымушалі перанесціся ў тое жыццё, якое іх нарадзіла, прымушалі зноў успомніць аб тым, што народ перацярпеў, перадумаў, аб чым марыў у пошуках шчасця.

Успомнілася доўгае жыццё і аднаму з членаў камісіі — Нікалаю Нікалаевічу Чуркіну. Сын беднага селяніна, сірата з трох год, ён не меў мажлівасці нават марыць аб музыцы, хоць і любіў яе палымяна. Выпадкова ім зацікавіўся прыехаўшы ў вёску ўрач, які вырашыў уладзіць таленавітага хлопчыка на вучобу ў ваенна-фельчарскую школу, куды ў царскія часы прымалі выхаванцаў з народа. На шчасце Нікалая Нікалаевіча, у школе існаваў аматарскі духавы аркестр, і начальнік навучальнай установы «літасціва» дазволіў яму іграць на барабане. Не заўважыць музыкальную таленавітасць выхаванца Чуркіна нельга было, і начальства дазволіла яму іграць у аркестры, цяпер ужо на розных духавых інструментах. Паступова з удзельніка аркестра Нікалай Нікалаевіч зрабіўся яго кіраўніком, вядомым музыкантам-аматарам у горадзе.

Прайшлі гады цяжкай муштры ў ваенна-фельчарскай школе, і пачаліся гады самастойнай працы. Але жаданне стаць сапраўдным музыкантам усё мацней авалодвала Нікалаем Нікалаевічам. Выпадковая сустрэча з выдатным рускім кампазітарам М. М. Іпалітавым-Іванавым канчаткова вырашыла лёс маладога ваеннага фельчара Чуркіна. Ён пачынае браць у кампазітара ўрокі па тэорыі музыкі і кампазіцыі, робіць першыя запісы і апрацоўкі народных песень, складае першыя свае ўласныя творы.

У 1892 годзе Нікалай Нікалаевіч пачаў сваё прафесійнае жыццё музыканта. Бясконцыя пераезды з месца на месца ў пошуках працы ў якасці музыканта не далі яму магчымасці аж да Вялікага Кастрычніка заняцца сістэматычнай кампазітарскай дзейнасцю. Але тое, што перашкаджала Нікалаю Нікалаевічу пісаць уласную музыку, дапамагала яму ўбачыць, вывучыць жыццё народа, пазнаць яго імкненні, думы, спадзяванні, асабліва глыбока выказаныя ў народных песнях. І музыкант пачынае энергічна і настойліва шукаць, запісваць, збіраць, прапагандаваць народную творчасць. Так за пятнаццаць дарэвалюцыйных год жыцця Н. Н. Чуркіна на Беларусі з'явілася звыш пяцісот яго запісаў беларускіх народных песень, часткова выдадзеных у некаторых зборніках, нават у абход цэнзурных рагатак.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Нікалая Нікалаевіча пачалося сапраўды кампазітарскае жыццё. Але ён не забывае аб запісу народных песень. Наадварот, ён яшчэ старанней пачынае весці гэту вялікую і высокародную працу, яшчэ дакладней разумее, што толькі на аснове глыбокага вывучэння народнай творчасці ён здолее пісаць сапраўды шчырыя творы.




За плячыма старэйшага кампазітара Савецкай Беларусі — 85-гадовага Нікалая Нікалаевіча Чуркіна вялікае жыццё, вялікія заслугі перад родным мастацтвам. Яго, народнага артыста БССР, неаднаразова ўзнагароджанага ордэнамі і медалямі, аўтара цудоўных «Беларускіх малюнкаў», сімфаньет, аркестровых сюіт, музычных камедый, інструментальных п'ес, натхнёных песень, палымяных танцаў, збіральніка больш чым двух тысяч беларускіх народных песень, добра ведае і любіць наш народ.

Толькі пачынае жыццё ў мастацтве маладая артыстка Дзяржаўнага хору БССР Шура Науменка. Перад ёю адкрыта шырокая дарога: наша цудоўная Радзіма дала ёй усё па першаму закліку яе таленту.

Шура Науменка разам з Нікалаем Нікалаевічам і дзесяткамі другіх заслужаных майстроў мастацтва Савецкай Беларусі будзе ўслаўляць творчасць нашага народа на вялікім аглядзе ў Маскве — на дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры. Няхай-жа гэтае еднанне майстэрства, вопыту, сталасці з абаяльнасцю юнацтва будзе зарукай вечнай маладосці мастацтва нашай шчаслівай Айчыны!

**І. НІСНЕВІЧ.**

## Гаворыць творчая моладзь

### У горкаўскім спектаклі

Адзін выхад на сцэну ў фінале п'есы, чатыры фразы — вось той матэрыял, які прадастаўлены ў распараджэнне акцёра выканаўцы ролі Акімава ў спектаклі «Ворагі» М. Горкага. За некалькі хвілін, некалькімі словамі патрэбна стварыць вобраз мужнага барацьбіта за справу працоўных. Відавочна, што чым большая роля, тым лягчэй яна запомніцца гледачу і, наадварот, чым роля меншая, тым больш акцёр павінен укласці ўмення, майстэрства, творчага натхнення ў сваю работу над ёю. Тут кожнае слова павінна дыхаць страсцю, запальваць у гледача сэрца.



Пра Акімава глядач ведае задоўга да таго, як ён паяўляецца на сцэне. Аб ім гаворыць Леўшын з Грэкавым, яго шукаюць жандары. У гледача загадзя ствараецца пэўны вобраз чалавека, які адважыўся забіць дырэктара. А цяпер уявіце, што на сцэне паяўляецца зусім не той Акімаў, вобраз якога ўжо стварыў глядач. Што-б ні казаў тады акцёр, ён ужо не даб'ецца поспеху. У гэтым другая цяжкасць для выканаўцы ролі Акімава — трэба быць такім, якім стварыў Акімава папярэдні ход п'есы.

Вось гэтую вельмі кароткую, але надта адказную ролю мне было даверана сыграць у спектаклі «Ворагі». Для таго, каб сказаць усяго толькі чатыры фразы і імі стварыць незабыўны вобраз, мне давялося вельмі многа працаваць. Прышлося занава прачытаць «Маці» М. Горкага, і не толькі прачытаць, але наглядна ўявіць сабе асяроддзе тагачаснага рабочага класа, яго інтарэсы, спадзяванні. Трэба было адчуць псіхалогію рабочага, яго ўсведамленне сваёй ролі як магільшчыка капіталізма. Я перачытаў першы, другі, трэці і чацверты раздзелы з «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». У музеях, карцінных галерэях я ўважліва прыглядаўся да фотаздымкаў і карцін, якія адлюстроўваюць рэвалюцыйны рух у нашай краіне. Гэта дапамагло мне адчуць дух таго часу, у які жыў і змагаўся мой герой Акімаў. Карацей кажучы, хоць роля ў мяне была вельмі маленькая, але працаваць над ёю давялося шмат. Як удалася яна мне, няхай суддзёй будзе глядач. Хачу толькі коратка расказаць, як я ўяўляю сабе Акімава.

Акімаў смела кідае ў вочы пракурору словы: «Гэта я забіў дырэктара». Мне хацелася, каб у гэтых словах адчувалася і перакананне Акімава, што ён правільна зрабіў, выстраліўшы ў дырэктара, і правільна зрабіў, што сам прышоў сюды: Акімаў не хоча, каб за яго ахвяраваў сваім жыццём хто-небудзь з сяброў.

— Наце ешце!.. — з выклікам гаворыць Акімаў усяму лагеру ворагаў, але ў яго голасе адчуваецца, што з'есці яго ніхто не зможа, бо ён не адзін, за яго плячыма стаяць верныя таварышы — рабочыя.

Усведамляючы важнасць вобраза Акімава для спектакля ў цэлым, перад выхадам на сцэну я хвалююся не менш, чым выканаўцы галоўных ролей, і наогул я іграю маленькія ролі з ахвотай, бо ведаю, што і яны не менш патрэбныя для спектакля, чым вялікія ролі.

С. КОХАН,
артыст Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

# МАЛАДЫЯ МАЙСТРЫ ТЭАТРА



Г. Арлова ў ролі Жанэка са спектакля «Не называючы прозвішчаў»

На сцэне просты савецкі чалавек — салдат Кукушкін («Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча ў тэатры імя ЛКСМБ). Жыццё сутыкнула яго з самымі сур'ёзнымі выпрабаваннямі. На полі бою з фашысцкімі войскамі правяралася загартаванасць волі юнака, яго мужнасць, вынаходлівасць, гатоўнасць да гераічнага подзвігу ў імя велічы і славы Радзімы.

Малады артыст Б. Уксусаў выразна раскрыў шчырасць і прыродны розум савецкага воіна, яго дасціпнасць і здольнасць не губляць душэўнай роўнавагі ў самых складаных умовах, стойкасць і маральную чысціню. Апынуўшыся тварам да твару з гітлераўцамі, герой выяўляе ўсе гэтыя рысы ў вострых драматычных сітуацыях, у актыўным дзеянні.

Тое, што іменна гэтыя якасці вызначаюць майстэрства артыста, відаць і па іншых яго сцэнічных вобразах, у такіх, напрыклад, розных па жанрах творах, як лірычная драма Чэхава «Чайка» і вадэвіль Дыхавічнага «Вясельнае падарожжа».

У жыцці Трэплева («Чайка») — чалавека таленавітага, але няўдачніка — многа непрыемнага і пакутлівага. Гэта, урэшце, разбурае яго веру ў людзей. Нарастанне трагедыі героя, якая заканчваецца самагубствам, Б. Уксусаў перадае на сцэне з выключным драматызмам.

Асаблівасці «почарка» Б. Уксусава даволі выразна раскрываюцца і ў камедыйным вобразе Марка Громава («Вясельнае падарожжа»). У той час, калі яго партнёры, аспіранты-акіянографы, разыгрываюць прыгоды маладых людзей, якія трапілі ў смешнае становішча, выканаўца ролі Громава ў сваіх сустрэчах з Насценькай наводзіць гледача на думку аб тым, што гэтая дзяўчына ўрэшце сапраўды стане самай блізкай сэрцу аспіранта сяброўкай. Не парушаючы прыроды жанра, Б. Уксусаў ясна даводзіць, што з'яўленне Насценькі асвятліла халасцяцкае жыццё Громава новым святлом, што рухавая і разумная дзяўчына — гэта той чалавек, якога яму не ставала ў жыцці.




Але значная па тэксту роля не заўсёды паказальна для разумення магчымасцей акцёра. Душа творцы, яго здольнасці ў адной сцэне ці эпізодзе часам раскрываюцца багацей, чым у вобразе, які праходзіць праз усю п'есу.

У гэтых адносінах характэрна творчая работа маладой артысткі тэатра імя ЛКСМБ Л. Хрол. У параўнальна невялікай ролі Зоі Сінельнікавай («Вясельнае падарожжа») глыбока выяўлена ўсё тое, што ўласціва маладой артыстцы — тонкі лірызм, чулая сардэчнасць, жаночая прывабнасць.

Роля Зоі невялікая, але кожны выхад яе на сцэну прыцягвае да сябе ўвагу незвычайнай шчырасцю, прастатой і нейкай асаблівай душэўнай грацыяй, зграбнасцю.

Гэтая-ж мяккасць і вонкавая стрыманасць пачуццяў уласціва Л. Хрол і ў ролі іспанкі Марытаны («Дон Сэзар дэ Базан»). Без усякай экзотыкі і наігрышу жыве артыстка багатым унутраным жыццём гераіні. Глыбока пранікае у сэрцы гледачоў душэўная драма Марытаны, яе квітнеючае пачуццё да Сэзара, пякучая нянавісць да тых людзей, якія пазбаўляюць моладзь права на шчасце, на радасць.

Вылучаецца сярод артыстычнай моладзі Галіна Арлова (тэатр імя Якуба Коласа). Артыстка мае ўжо даволі значны вопыт і ў многіх ролях праявіла добры густ.

... Нялёгка жывецца Жанэку ў сям'і, якая зарасла мяшчанскай цвіллю («Не называючы прозвішчаў»). За кожным крокам жвавага хлопчыка сочыць істэрычная маці. Яна надакучыла Жанэку сваёй празмерна дробязнай апекай і занадта далікатнымі «арыстакратычнымі» звычкамі. Яму хочацца часцей дыхаць вольным паветрам, купацца ў рэчцы, загараць на сонцы, больш рухацца, гуляць з дзецьмі.

Г. Арлова іграе Жанэка не пасіўным «непрацiўленцам», які прымірaецца са сваім лёсам, а сцвярджае душэўны пратэст хлопчыка супраць антыпедагагічнай сістэмы выхавання. Артыстка выразна даводзіць, што яе Ванько не пакалечаны мяшчанскай мараллю і заўсёды застанецца чыстым і шчырым.

Жывы тэмперамент, здольнасць зліцца з вобразам і ўпэўнена дзейнічаць у ансамблі артыстка паказала і ў ролі Людмілы Шаровай («Яе сябры» Розава). Узрушанай, усхваляванай вялікім няшчасцем, якое ёй пагражае, выходзіць на сцэну Людміла — Арлова. У яе вачах прыкметны напружанасць і пакута... Нарастанне асабістай драмы дзяўчыны, якая раптоўна траціць зрок, Г. Арлова перадае ў гэтай сцэне з пачуццём вялікага душэўнага болю. Але ў інтанацыях голасу артысткі няма роспачы. Гора зрабіла яе гераіню больш сталай, дарослай, настойлівай і загартаванай для пераадолення бяды. Сіла волі Людмілы і савецкая навука перамаглі цяжкую хваробу. Людміла ў выкананні Арловай — вобраз жыццелюбівы і па-сапраўднаму аптымістычны.

Гераіні, якія ўвасоблены на сцэне Г. Арловай, валявыя, багатыя інтэлектуальным жыццем і наступальным парывам. Яны дзейсна змагаюцца за свае ідэалы. Такія ролі створаны артысткай у «Атэстаце сталасці» Гераскінай, «Небяспечным спадарожніку» Салынскага і іншых спектаклях. Хацелася-б толькі параіць Арловай не захапляцца рэзкай вонкавай выразнасцю вобразаў, пільней углядацца ў жыццё, чэрпаючы ў ім свежыя фарбы для роляў.

Вострым разуменнем рэчаіснасці валодае здольная выхаванка Беларускага тэатральнага інстытута В. Суднікава (Магілёўскі абласны драматычны тэатр).

В. Суднікавай пашанцавала сыграць ролю Веры ў «Апошніх» М. Горкага.

...Шаснаццацігадовая дзяўчына вырасла ў сям'і паліцмайстара Каламійцава, дзе яна не атрымала сапраўднага ўяўлення аб жыцці. Яе погляды на людзей і іх узаемаадносіны ўзніклі на глебе тых успамінаў, якія засталіся ў яе з маленства. Аднак яе ілюзіі, «ідэальнае» ўяўленне аб жыцці і людзях разбурае жорсткая і суровая рэчаіснасць.

Удумлівá і тактоўна вядзе маладая артыстка складаную ролю. Лёгкадумнай дзяўчынкай, з наіўнымі поглядамі на любоў і дружбу пакідае Вера — Суднікава сцэну ў трэцім акце. А ў канцы п'есы яна — ужо сталая жанчына з вялікім душэўным болем. Назаўсёды зніклі «казкі цудоўныя» і наіўнае ўяўленне аб людзях. Пачалася горкая і пакутлівая проза жыцця.

Машанька — гераіня аднайменнай п'есы Афінагенава па ўзросту блізкая да Веры. Але інакш склалася жыццё савецкай дзяўчынкі. Калі ідэалы гераіні «Апошніх» былі растаптаны бруднымі людзьмі, дык светлыя мары Машанькі атрымалі поўнае здзяйсненне.

Для Машанькі — Суднікавай характэрна юнацкая гарэзлівасць, шчырасць, бездакорнае сумленне, разуменне жыцця, як крыніцы шчасця і творчага натхнення. Створаны артысткай вобраз адухоўлена рамантычны, поўны паэзіі і цёплага лірызму.

І. Дзеніскевіч (Гродзенскі абласны тэатр) — таксама скончыла Беларускі тэатральны інстытут, аднак ёй не пашанцавала з першых самастойных крокаў на сцэне атрымаць такую творчую работу, якая адпавядае індывідуальнасці артысткі. Зацягнуўся перыяд выпрабавання яе здольнасцей. Але ў апошні час пачалося цікавае, багатае сапраўднымі творчымі ўдачамі сцэнічнае жыццё артысткі.

Донна Інэса ў выкананні Дзеніскевіч — жыццерадасная і прыгожая іспанская дзяўчына, якая шчыра закахана ў прывабнага юнака Фернанда («Жывы партрэт»). Тонка і тактоўна перадае артыстка росквіт светлага пачуцця ў сэрцы гераіні. Надзвычай прыемна ў свежым майстэрстве Дзеніскевіч тое, што, валодаючы добрым мастацкім густам, яна старанна абыходзіць штампы і рамесніцкія «прыстасаванні», якімі часта карыстаюцца для сцэнічнага ўвасаблення кахання.

У лірычным жанры — крыніца будучых поспехаў Дзеніскевіч.

Наша размова закранае невялікую групу здольных акцёраў, якія з поспехам выступаюць на сцэне ў абласных цэнтрах рэспублікі. Маладых майстроў тэатра, якія карыстаюцца ўвагай беларускага гледача, значна болей. Усіх іх аб'ядноўвае ўлюбёнасць у роднае сацыялістычнае мастацтва, імкненне ўвасобіць у яркіх вобразах веліч подзвіг савецкага маладога чалавека — будаўніка камунізма.

**М. МІХАЙЛАЎ.**

І. Дзеніскевіч у ролі Інэсы са спектакля «Жывы партрэт».





На здымку: сакратар Брэсцкага абкома камсамола Р. Пуціна (справа) уручае пуцёўкі ад'язджаючым на цалінныя землі.
Фото В. Германа.
(Фотахроніка БЕЛТА.)

# ЗАШУМЯЦЬ ЗБАЖЫНОЙ СТЭПЫ

Летась на прадвесні ў казахстанскія стэпы прыехалі першыя добраахвотнікі, маладыя ініцыятары асваення цалінных і абложных зямель. Перад вачамі навасёлаў рассціталіся неабсяжныя, бяскрайнія стэпы, густы кавыль ды высокае, блакітнае неба. Не было дзе жыць, нехапала вады, пад адкрытым небам прыходзілася трымаць машыны. Але настойлівыя энтузіясты не спалохаліся цяжкасцей.

Вясной загуў абуджаны стэп. Тысячы трактараў уздымалі някранутую стагоддзямі цаліну. Затое якіх цудоўных поспехаў дабіліся піянеры асваення цалінных зямель! Краіна атрымала сотні тысяч цэнтнераў выдатнай казахстанскай пшаніцы. Там, дзе некалі гуляў толькі вецер, выраслі пасёлкі ста дваццаці новых соўгасаў.

Сёлета кліч — на цалінныя землі, таварышы! — паўтарыўся. У пачатку студзеня яго на ўвесь Совецкі Саюз кінулі ўдзельнікі Маскоўскага сходу камсамольцаў і моладзі.

«Юнакі і дзяўчаты, — пісалі яны ў звароце.— Справа партыі, народа — наша кроўная справа. Збірайцеся ў дарогу, дарагія сябры, на новыя землі! Склічам на цалінныя землі новую шматтысячную армію навасёлаў, смелых і настойлівых энтузіястаў, палымяных выканаўцаў волі партыі».

На гэты заклік адгукнуліся тысячы адважных энтузіястаў, юнакоў і дзяўчат, што свята берагуць слаўныя традыцыі Паўкі Карчагіна, герояў Комсамольска-на-Амуры, першых перадавікоў-комсамольцаў нашай Радзімы. У Ленінградзе, Мінску, Кіеве, Алма-Аце — усюды ў комсамольскія камітэты ідуць і ідуць з заявамі юнакі і дзяўчаты. Кожнаму хочацца ўдзельнічаць у патрыятычным руху.

Уважліва разглядаюць члены камітэта кожную заяву.

— А можа спалохаешся цяжкасцей, спасуеш перад імі? — пытаюцца яны ў юнака.

Той абураны. Як можа спасаваць ён, увабраўшы ў сябе мужнасць і волю Зоі Касмадзям'янскай, герояў Краснадона.

У мінулым годзе з Беларусі ў Казахстан выехалі сотні юнакоў і дзяўчат. Усе яны зараз добра жывуць, добра працуюць. Многія з іх прыязджалі перад Новым годам наведаць сваіх родных і знаёмых. Некаторыя выступілі на сходзе комсамольскага актыву Мінска. Сярод іх была і былая фрэзероўшчыца Мінскага інструментальнага завода Е. Красуцкая. Выступіўшы на сходзе, яна заклікала моладзь прыязджаць у Казахстан.

І вось уручаны пуцёўкі новым тысячам комсамольцаў. На развітанне — таварыскі поціск рукі, шмат цёплых слоў і добрая зайздрасць тых, хто застаўся тут. Шчаслівага шляху, сябры!

Анатоль БЕЛАШЭЎ




Тры дні ў полі лютавала завея. Пранозлівы вецер паднімаў хмары снегу з узгоркаў і намятаў вялізныя суметы ля хмызнякоў і ў лагчынах. Нават за пяць крокаў нічога не было відаць.

Нягледзячы на гэта, тактычныя заняткі не спыняліся ні на хвіліну. Салдаты дзейнічалі так, нібыта яны знаходзіліся не на вучэбным полі, а ў сапраўдным баі, — імклівa, дынамічна, без якіх-бы там ні было скідак на надвор'е. Падраздзяленне надзейна закапалася ў зямлю, рыхтуючы выхадныя пазіцыі для наступлення. Потым па сігналу дружна паднялося ў атаку, і трэба было бачыць, з якой упартасцю змагаліся воіны з завірухай, насуперак непагадзі прасоўваючыся ўсё ўперад і ўперад. Сямтам чуліся прыглушаныя ветрам адзіночныя стрэлы і аўтаматныя чэргі. Атакуючы, салдаты вялі няспынны, масіраваны агонь на хаду.

Засталіся ўжо ззаду першая, другая і трэцця лініі траншэй «праціўніка». Але камандзір не спыняў заняткаў. Закон сучаснага бою патрабуе, каб пасля ўдару з паветра і артылерыйскай апрацоўкі пазіцый «праціўніка» галоўная паласа яго абароны была пройдзена нашай пяхотай у надзвычай імклівым тэмпе. І толькі пасля таго, як нашы танкі прайшлі баявыя парадкі пяхоты і рушылі ў глыбіню «непрыяцельскай» абароны, каб развіць дасягнуты поспех, каскад зялёных ракет прыпыніў далейшае выкананне вучэбнай задачы.

Заснежаныя, стомленыя, чырвоныя ад марозу, салдаты збіраліся на пункт сканцэнтравання. Ніхто не скардзіўся на цяжкасці, настрой ва ўсіх быў бадзёры, прыўзняты. Вучэнне з'явілася выдатнай праверкай баявога майстэрства і фізічнай вынослівасці воінаў, а завіруха яшчэ больш наблізіла вучэбную абстаноўку да сапраўднай, баявой. На фронце надвор'е не выбіраюць!

Для разбору заняткаў камандзір загадаў пастроіць асабовы састаў падраздзялення ў глыбокім яры, схаваным сумётамі снегу. У аднолькавых шэрых шынялях і шапках-вушанках, са зброяй на рамень, воіны занялі свае месцы ў страі. На першы погляд усе яны былі надзвычай падобны адзін на аднаго. Але для камандзіра кожны салдат адрозніваўся ад свайго суседа як уменнем, спрытам і стараннасцю, так і характарам, звычкамі, пэўнымі слабасцямі.

Вось побач с сержантам стаіць кулямётчык, былы аграном Міхась Паўловіч. Вучэнне, якое толькі што скончылася, з'явілася для яго жорсткім экзаменам баявой сталасці, і гэты экзамен малады салдат вытрымаў з чэсцю. У надзвычай цяжкіх умовах Паўловіч дзейнічаў смела і рашуча. А ці даўно ён на ранішняй фіззарадцы задыхаўся ад хуткага бегу і скардзіўся камандзіру, што ў яго нехапае сіл паспяваць за таварышамі? Ці даўно кулямёт уяўляўся гэтаму салдату недасягальна складанай зброяй? За кароткі час Міхась Паўловіч шмат чаму навучыўся ў радах Совецкай Арміі, і сёння яго стараннасць варта адзначана яшчэ адной падзякай за бездакорную службу.

Для латыша Эйдукса, украінца Пяцько, узбека Саттарава праведзеныя заняткі таксама з'явіліся школай баявога майстэрства. Воіны атрымалі добрыя навыкі дзеянняў у сучасным баі, умелага выкарыстання мясцовасці, спалучэння агню і руху ў наступленні.

Яшчэ зусім нядаўна маладога салдата можна было беспамылкова адрозніць ад стараслужачага шмат па якіх знешніх прыкметах. Навічкі няўмела аддавалі чэсць, баязліва браліся за рыдлёўку, калі трэба было выкапаць ячэйку для стральбы, былі няўважлівымі да каманд і сігналаў, губляліся на агнявым рубяжы, марудна перабягалі ад прыкрыцця да прыкрыцця і зусім не маглі поўзаць па-пластунску. Цяпер усё гэта — у мінулым. Маладыя салдаты ў вучобе і службе ўжо нічым не адрозніваюцца ад «старых», а некаторыя нават пераўзышлі іх у баявой і палітычнай падрыхтоўцы.

Падана каманда змяніць агнявую пазіцыю.
Фото Е. Кальчанкі.



Вось стаіць у страі радавы Валянцін Зуб. Нялёгкім шляхам ён ішоў да поспехаў у вучобе і службе. Поспехі — гэта потым ужо, спачатку-ж салдату давялося зазнаць нямала няўдач і непрыемнасцей.

У маленстве бацькі лічылі Валянціна вельмі здольным хлопчыкам, не пярэчылі яго жаданням і ні ў чым яму не адмаўлялі. Бацька — данецкі забойшчык — добра зарабляў, і старэйшы сын рос, не ведаючы ніякіх клопатаў і цяжкасцей. Праўда, Валянцін вучыўся няроўна: у дзённіку побач з пяцёркамі час-ад-часу з'яўляліся тройкі, а то нават і двойкі. Але хлопчыка гэта не засмучала. «Пяцёркі—справа нажытная. У мяне яшчэ ўсё наперадзе», — думаў ён.

Нечакана ў хату прышло гора — памёр бацька. На плечы маці і старэйшага сына адразу легла мноства клопатаў. І пад цяжарам гэтых клопатаў Валянцін адчуў, наколькі не прыстасаваны ён да жыцця.

— Кіну школу. Буду сам зарабляць, навошта жыць на адной пенсіі, — сказаў ён аднойчы маці.

Старая ўгаварвала не рабіць гэтага, але Валянцін не паслухаў, хоць у яго не было ніякай прафесіі. Куды пайсці? Чым заняцца? Да фізічнай працы юнака не цягнула. «З дзевяццю класамі асветы знайду працу чысцейшую», — саманадзейна думаў ён.

— Знайшоў! — абвясціў ён аднойчы. — Еду на курсы кіномеханікаў.

Але курсы ён ледзь не кінуў з такой-жа лёгкасцю, з якой у свой час пакінуў школу. Валянцін раптам нястрымна «захварэў» на бокс. І калі-б не накаут, атрыманы ў першым-жа баі ад спрактыкаванага і валявога працаўніка, не вярнуўся-б хлапец на родную шахту кіномеханікам.

Пасада кіномеханіка была яму па душы. Ён няблага зарабляў, мог спаць да поўдня, а ў вольны час «падзарабляць» на рамонце радыёпрыёмнікаў.

Аб службе ў арміі Валянцін думаў, але не так, як трэба. Служба ўяўлялася яму занадта прыгожай, парадная. Больш за ўсё юнаку падабалася тое, як ён будзе выглядаць на першай фатаграфіі ў новенькай, ладна пашытай салдацкай форме...

— Ой, цяжка табе будзе служыць, — уздыхнула маці, калі сын прышоў з прызыўной камісіі. — Прывык ты, што ўсё лёгка ды проста...

— Нічога, мама. Вось убачыш, усё будзе добра...

Трэба меркаваць, што здаровы, развіты, моцна складзены малады чалавек меў усе падставы верыць у свае сілы. І ўсё-ж маці мела рацыю: Валянціну «не пашанцавала» літаральна з першых дзён вайсковай службы.

Вядома, кожнаму маладому салдату ў першы час нялёгка прызвычаіцца да армейскіх парадкаў, уцягнуцца ў размеранае і суровае салдацкае жыццё.

Пад'ём. Таварышы хутка ўстаюць з ложкаў, апранаюцца і бягуць на зарадку. Апошнім, на хаду запраўляючы анучу, даганяе строй Зуб.

— Не паспяваю, таварыш сяржант.

— Але-ж іншыя паспяваюць, — слушна заўважае камандзір.

Валянцін маўчыць. Хіба можа сказаць ён, што дома прывык доўга валяцца ў ложку, чакаючы, пакуль маці паставіць снеданне на стол...

Страшэнна доўга і няўмела Зуб запраўляе ложак. Дома гэта рабіла за яго клапатлівая маці. Падшывае падкаўнерык да гімнасцёркі і абавязкова наколе сабе палец. Дзіва што, ёнжа ніколі не трымаў у руках іголку. Сябры шумліва і весела абліваюцца сцюдзёнай вадой, а Валянцін курчыцца, калі струменьчык вады трапляе за каўнер. На занятки Валянцін ідзе, зараней ведаючы, што камандзір зноў будзе «прыдзірацца» да кожнай дробязі. Ён не можа пераскочыць «каня», падцягнуцца на турніку, не ўмее акапацца і перапаўзці па-пластунску.

— Саромцеся! Вам, бадай, баксёрам трэба быць, а вы на турніку падцягнуцца не можаце.

— Баксёрам? — нявесела ўсміхаецца Зуб. — Спрабаваў, не атрымалася. Вось і тут таксама не атрымоўваецца.

Цяжкасці падпільноўвалі Валянціна на кожным кроку. Ён хутка стамляўся на занятках у полі, не мог як след расказаць аб узаемадзеянні частак карабіна, няроўна страляў: то выканае практыкаванне, а то накіруе кулі «па малако». І ўсяму віной была адсутнасць упартасці ў дасягненні мэты.

Аднойчы, заняўшыся чымсьці ў пакоі палітасветработы, Зуб так захапіўся, што не пачуў каманду пастроіцца, а калі выбег даганяць строй, у спешцы забыў падсумак. Камандзір наклаў на яго спагнанне і загадаў вечарам з'явіцца да яго на гутарку.

— Вы ўжо не першы раз парушаеце строгі статутны парадак, — пачаў камандзір, калі Зуб зайшоў у канцылярыю. — З вамі гаварылі ўжо на гэтую тэму. А вынікаў пакуль што няма.

Цяжка было Валянціну ўсведамляць, што не з таго ён пачаў вайсковую службу. Таварышы падзякі атрымліваюць, а тут — спагнанні...

— Вінаваціць вам няма каго, — нібыта адгадваючы думкі воіна, прадаўжаў камандзір. — Самі ва ўсім вінаваты? Не з тае нагі пайшлі.

Доўга гутарылі яны ў той вечар. Салдат з усяго, што сказаў камандзір, глыбока зразумеў простую і ясную ісціну: «Трэба мяняць нагу». А камандзір, уважліва выслухаўшы падначаленага, прыняў цвёрдае рашэнне выпрабаваць яго волю яшчэ раз. Не пашанцавала Зубу ў свой час з боксам, магчыма, пашанцуе ў стралковым спорце.

— Вось што, таварыш Зуб. Гэтымі днямі ў нас адбудуцца стралковыя спаборніцтвы. Страляеце вы, у асноўным, нядрэнна. Памерайцеся сіламі з разраднікам Водневым.

— Што вы, таварыш капітан! — спалохана прамовіў Валянцін. — Водneў — чэмпіён падраздзялення. Хіба я здолею?..

— Захочаце — здолееце!

У выхадны дзень у цір сабралася шмат балельшчыкаў. Па сігналу Водneў і Зуб хутка выходзяць на агнявы рубеж, рыхтуюцца да стральбы. Час вельмі абмежаваны, вунь паказаліся ўжо нагрудныя мішэні. Хто пераможа? Чыя мішэнь, прабітая трапнай куляй, упадзе першай? У прысутных амаль не было сумнення наконт гэтага. І ўсё-ж усе з цікавасцю сачылі за паядынкам сяржанта Воднева з маладым стралком Валянцінам Зубам.

Перамог больш спрактыкаваны і натрэніраваны Водneў. Усяго толькі на адну секунду апярэдзіў ён таварыша трапным стрэлам.

— На гэты раз не атрымалася, — сказаў Зуб свайму камандзіру пасля спаборніцтва. — Але...

Афіцэр прысутнічаў на спаборніцтвах і бачыў, што Зуб прайграў таму, што вельмі марудна перабягаў ад зыходнага да агнявога рубяжа. У гутарцы ён указаў салдату на гэтую памылку.

— Сяржант Водneў не толькі здольны стралок, але і натрэніраваны фізкультурнік, выдатны гімнаст. Вось у чым адзін з «сакрэтаў» яго поспеху.

З гэтага дня Зуба нібыта падмянілі. Ён пачаў часцей наведваць спартыўную залу, практыкавацца на снарадах, трэніраваць сябе ў бегу. Адначасова салдат не забываўся на стралковыя трэніроўкі. Праз некаторы час малады стралок зноў сустрэўся са спартсменам разраднікам на агнявым рубяжы.

Наўрад ці трэба гаварыць, як бурна і радасна віталі таварышы заслужаную перамогу Валянціна. Для камандзіра-ж гэта была не проста спартыўная перамога, здабытая падначаленым ва ўпартай барацьбе. Гэта была перамога радавога Зуба над самім сабою, над сваімі слабасцямі і звычкамі. І сёння, пасля тактычных заняткаў, афіцэр прыгадаў гісторыю Валянціна Зуба не выпадкова. Салдат выдатна дзейнічаў у складаных умовах, заражаючы таварышаў бадзёрасцю, ведучы іх уперад праз усе цяжкасці.

Камандзір гаварыў нядоўга. Ён адзначыў воінаў, якія вызначыліся ў ходзе заняткаў, назваў недахопы, над якімі яшчэ трэба папрацаваць, падкрэсліў, што інтарэсы абароны Радзімы патрабуюць, каб воіны настойліва і ўпарта ўдасканальвалі сваё баявое майстэрства, заўсёды былі гатовыя да адпору любой агрэсіі.

Потым ён павярнуў строй і скамандаваў: «Запявала, песню!» і павёў салдат у вайсковы гарадок.

Песня ўсё мацнела, і снежная завіруха была бездапаможная супраць дружнага баявога строю, згуртаванага адзінай мэтай, адзіным біццём сыноўніх сэрцаў, адданых Радзіме, народу.

А на вячэрняй паверцы старшыня выклікаў са строю Валянціна Зуба, Міхася Паўловіча, Яніса Эйдукса, Пятра Пяцько, Ашура Саттарава і ад імя старэйшага начальніка абвясціў ім падзяку за выдатныя дзеянні на тактычных занятках.

— Служым Савецкаму Саюзу! — горда адказалі воіны. Яны ведалі — кожны іх крок наперад па шляху баявога майстэрства ўмацоўвае магутнасць і пастаянную баявую гатоўнасць Савецкіх Узброеных Сіл, якія надзейна ахоўваюць мір і бяспеку роднай краіны.

Радавы В. Зуб на тактычных занятках.






**Янка МАЎР**

**Навукова-фантастычная аповесць** *

Мал. В. Ціхановіча.

Трэба было выбраць найбольш здольнага і кемлівага слухача. Светазар прыглядаўся, прыглядаўся — як тут разабраць, хто з іх больш здольны? Вось у гэтага, здаецца, вочкі хітраватыя. Светазар даў яму ў руку кактус з палаючым канцом. Той нясмела ўзяў яго. Тады хлопчык стаў паказваць, як штурхаць агнём. Сяк-так штурхнуў ён наперад і застаўся задаволены. А потым узяў і штурхнуў свайго суседа. Затрашчала поўсць, з крыкам адскочыў убок не толькі абсмалены, але і яго таварышы...

— Эх ты! — з дакорам сказаў настаўнік і адабраў кактус.

— Мусіць, пра іх і сказана: з агнём не жартуй, — засмяялася Святлана.

— А трэба іх навучыць, — з прыкрасцю сказаў Светазар, — абавязкова трэба. І цяпер, бо гэты Бао-Дай зараз можа прыйсці.

— Бао, — папраўіла Святлана.

— Хадзем паглядзім, што робіцца на двары. — І яны выйшлі з пячоры.

Было ўжо зусім цёмна. Адзінае святло, якое давала магчымасць хоць сяк-так бачыць, ішло ад зорак.

— Хоць-бы месяц які быў, — сказала Святлана.

— Марс мае нават два Месяцы, — адказаў брат, — ды карысці ад іх няма ніякай: адзін мае пятнаццаць кіламетраў, а другі — восем кіламетраў у папярэчніку, і нам іх не разгледзець. Можа якія-небудзь з гэтых самых маленькіх зорак і ёсць Месяцы, але нам яны не патрэбны.

Хоць і ўдзень, на Марсе цішыня надзвычайная, але цяпер яна здавалася яшчэ большай. Адзіным гукам было выццё яхаў Бао.

— Я нават шкадаваць іх пачынаю, — асабліва жанчын і дзяцей. Холад усё павялічваецца, праз некалькі гадзін будзе люты мароз, а куды ім дзецца? Яны і сваю пячору не могуць заняць, бо там газ.

— Здаецца, сюды ідуць! — шапнуў Светазар. — Вунь на тым баку нібы статак рухаецца. Але холадна тут, зойдзем у сярэдзіну і там будзем чакаць.

— А ты не баішся? — ціха спытала сястра.

— Не, баяцца ніяк не выпадае, — спакойна сказаў брат. — На адзін рэвальвер я-б не спадзяваўся, а на агонь спадзявацца можна.

Яны паставілі свой фантамабіль «пад страху», г. зн. пад скалу, і ўвайшлі ў сярэдзіну. Яхі яшчэ не падазравалі, што на іх ідзе варожае «войска». Светазар яшчэ крыху папрактыкаваўся з абаронцамі, але на іх зусім не разлічваў. Ён сам думаў адбіць «штурм».

Нарэшце і ў пячору даляцеў шум. Адзін з яхаў высунуўся з пячоры, каб паглядзець, і зараз-жа кінуўся назад. На твары яго быў страх. Ён балбатаў слова «Бао, Бао». Усе адразу зразумелі, у чым справа, замітусіліся, адсунуліся ад уваходу і згрудзіліся ў процілеглым кутку.

Гукі набліжаліся. Светазар падрыхтаваў кактусы, пасмейваўся і чакаў. Святлана не магла стрымаць сябе і дрыжала, больш ад нервовага ўзбуджэння, чым ад страху. Светазар са смехам сказаў ёй:

— І ты баішся, як гэтыя бедныя яхі? Сур'ёзна табе кажу: аніякай падставы няма баяцца. Не толькі першабытны ях, але і наш бандыт пабаіцца палаючай галіны, калі не будзе мець іншай зброі. А Бао рукамі нічога не можа рабіць.

І вось ля ўваходу заварушыліся цені, і ў пячору ўвайшоў Бао. Падышоўшы бліжэй, ён устаў на заднія ногі і грозна нешта прамармытаў. За ім сталі чатыры яго ахоўнікі, а рэшта стала ля ўваходу. Светазар тым часам падрыхтаваў добрыя палаючыя кактусы, два ўзяў сабе і адзін даў сястры

— Пабачыш, як весела будзе, — сказаў ён. — Пачынаем: раз!.. два!.. тры!..

Светазар закрычаў, замахаў агнямі ды як тыцне шаноўнаму Бао адным полымем у твар, а другім у жывот, дзе была самая доўгая поўсць... А Святлана падсмаліла назат двух ахоўнікаў.

Што тут адбылося, нават разглядзець не паспелі. Убачылі толькі, што незапрошаных гасцей у пячоры ўжо няма. А яхі ўсе смяяліся па-сапраўднаму.

Пераможцы выйшлі на двор, каб паглядзець, куды дзеліся ворагі. Яны згрудзіліся ля пераправы праз рэчку, а паблізу плакала малое дзіцянё. Зараз-жа да яго падбегла маці.

— Відаць, і на Марсе, і на Зямлі, і на іншых планетах усе маці аднолькавыя, — сказала Святлана і пачала гладзіць малое; а потым узяла яго на рукі і панесла ў пячору. Маці пакорна пайшла ззаду.

Усе вярнуліся ў пячору, і новыя жыхары далучыліся да старых без ніякіх перашкод.

Час ішоў, а задуманая Светазарам «рэарганізацыя» была яшчэ не скончана. Трэба было перанесці агонь і ў іншыя пячоры, а гэта вельмі марудная справа.

---

* Пачатак аповесці гл. у № 9, 10, 11, 12 за 1954 год і № 1 за 1955 год.



— Можа яны і самі маглі-б занесці да сябе? — сказала Святлана.

— Дзе там! — безнадзейна сказаў Светазар. — Бачыш, якія яны нязграбныя. Калі ён будзе несці агонь у адной руцэ, то нічога не выйдзе: ён абсмаліць сабе і твар і жывот. А на двух нагах наўрад ці данясе. Каб свабодна хадзіць на нагах, ім яшчэ трэба павучыцца можа тысячы гадоў. Нашы продкі жылі ў лясах, лазілі па дрэвах, стоячы на нагах, даставалі плады, каласы, адным словам, ім заўсёды прыходзілася стаяць на нагах. І то яны вучыліся, мусіць, тысячы гадоў. А тут ні дрэў, ні пладоў, ні высокіх раслін, а толькі адны кактусы, якія трэба збіраць, уткнуўшы нос у зямлю. Відаць, прыдзецца нам з табой «электрыфікаваць» іхнія хаты.

Калі перанеслі агонь у суседнюю пячору, вярнуліся сюды і жыхары яе. Потым ажывілі другую, трэцюю пячору і такім чынам разгрузілі першую. Засталася тут толькі чужая маці з дзіцем. Святлана пагладзіла і яе і дзіця, каб гаспадары бачылі, што з імі трэба абыходзіцца ласкава, ды яшчэ дала наказ:

— Глядзіце вы мне, не крыўдзіце іх, а то я вам... — і яна пагразіла гаспадарам пальцам.

Трэба адзначыць, што «электрыфікацыя» гэтая заняла куды больш часу, чым магло здавацца, бо кожны раз трэба было яшчэ і яшчэ паказваць, як абыходзіцца з агнём, падтрымліваць яго. На гэтую справу патрацілі, мусіць, гадзіны дзве, калі не болей. Падарожнікі вельмі стаміліся. Можна сабе ўявіць, як павінны былі адчуваць сябе яхі, якія, магчыма, за тысячагоддзі першы раз не спалі ноч. Але прычына была ўважлівая: першы раз за тысячагоддзі ноч у іх была з агнём.

Асноўнае было зроблена, можна было ляцець і дадому ці пераляцець адсюль у цёплае месца на Марсе. Святлана так і паставіла пытанне.

— А можа, пераначуем тут, з імі? — усміхнуўся Светазар.

Святлана аж уздрыганулася:

— Што ты, што ты, я лепш на двары пераначую!

— Вось які ты сябра бедных і прыгнечаных! — засмяяўся Светазар. — Добрая да іх, ласкавая, спачуваеш ім, а калі пабыць з імі бліжэй, то во якая агіда.

— І зусім не тое, — адказала Святлана. — Калі было-б неабходна, калі інačай нельга было-б, то я зусім не баялася-б. А цяпер мы можам ехаць далей.

— А што будзе далей з тымі яхамі і з той газіфіцыраванай пячорай? — заклапочана сказаў Светазар. — Няўжо прападаць такой каштоўнасці? Ды і тых яхаў трэ' было-б прыстасаваць да чэснага жыцця. Не, я не магу пакінуць Марс, пакуль не навяду ў ім парадку.

Тым часам мароз усё ўзмацняўся ды ўзмацняўся. А гадзіне адзінаццатай ён дасягнуў градусаў дваццаці. Выгнаныя яхі зноў заенчылі. Яны, відаць, не знайшлі сабе добрага прытулку.

— Хоць і бандыты, а ўсё-ж такі шкада іх, — сказаў хлапец. — Сярод іх пэўна ёсць і добрыя, якія павінны пакутаваць праз гэтага праклятага Бао-Дая.

— Бао, — паправіла дзяўчынка. — А я зрабіла-б так: пасяліла-б іх, скажам, у гэтую пячору, адабраўшы агонь, а гэтых жыхароў перасялілі-б туды.

— Вельмі добры план! — пахваліў брат. — Няхай яны пажывуць без агню і паглядзяць, як усе жывуць з агнём. А калі выправяцца ды заслужаць, то можна будзе даць ім агонь. А вось наконт той пячоры я ўношу папраўку. Для нейкай адной выпадковай сям'і тая пячора будзе занадта добрай. Можа гаспадар таксама нос задзярэ, як гэты...

— Бао, — паспяшыла падказаць Святлана.

— Але, Бао. Вядома, несвядомы народ. Калі ён убачыць сябе ўладальнікам такога агню, за якім не трэба сачыць, які не трэба даглядаць і падтрымліваць, то можа таксама задзерці нос. Такое дасканалае памяшканне трэба скарыстаць для грамадскакарысных справы, напрыклад, для дзіцячага сада...

— Ха-ха-ха! — засмяялася дзяўчына.

— Чаго ты смяешся? Я зусім не жартую. Чаму-ж нельга зрабіць так, каб там жылі толькі маці з дзецьмі. І агонь тут зробіцца грамадскім, ён ніколі не згасне, і калі ў каго з жыхароў агонь прападзе, то можна будзе яго ўзяць адсюль.

— Планы твае вельмі добрыя, — сказала сястра, — але калі ты гэта зробіш? У гэтую ноч, ці што? Праз некаторы час будзе мароз градусаў на сорак, ды і не прывыклі яны не спаць уначы.

— Нічога! — упэўнена сказаў хлопец. — Адну ноч за тысячу гадоў можна і не паспаць.

Але сказаць было лягчэй, чым зрабіць. Абмеркаваўшы справу з усіх бакоў, яны вымушаны былі адкласці яе на наступны дзень. А цяпер яны селі ў машыну і паляцелі «даганяць сонца».

Яны дагналі яго на беразе другога мора, не надта вялікага, неглыбокага, з нізкімі берагамі. Тут яны і спыніліся «на ноч».

Уся прастора навокал была зялёная, і ніякіх узвышшаў на ёй не было.

— Як табе здаецца, — спытала Святлана, — могуць тут жыць яхі ці не?

Светазар паглядзеў ва ўсе бакі і сказаў:

— Думаю, што не. Тут няма дзе схавацца ад начнога марозу.

— А выкапаць зямлянку нельга?

— А можа, у гэтай нізіне пад зямлёй блізка вада? А калі і няма вады, то са сваёй сучаснай тэхнікай яхі не здолеюць выкапаць сабе жыллё. Невядома яшчэ, ці ёсць тут вада для піцця, бо ў моры вада салёная.

— А ты каштаваў яе? — хітра спытала сястра.

Хлопец засмяяўся.

— Сапраўды, мы не ведаем. Ідзем, пакаштуем ваду.

Вада аказалася салёнай, і нават вельмі салёнай, бо рэкі не прыносяць сюды столькі прэснай вады, як на Зямлі.

— Давай хутчэй спаць, мы так натаміліся, — казала дзяўчынка. — А як будзем спаць?

— На зямлі, вядома. Мух, здаецца, не відаць.

— Заслонімся ад сонца нашай машынай і паспім.

Калі яны прачнуліся і захацелі пад'есці, то выявілася, што ў іх застаўся адзін бутэрброд.

— Якога маху мы далі! — шкадаваў Светазар. — Не думалася, што столькі часу прыдзецца тут быць, што столькі знойдзецца тут арганізацыйнай работы. Чаго добрага, прыдзецца і нам перайсці на палярныя кактусы.

— Нічога, — суцешыла дзяўчына, — для карысці нашых суседзяў можна і пагаладаць.

Вярнуліся ў Зялёную даліну раніцою. Усюды бялеў іней, замерзла Піонерка ля берагоў, бялеў ад лёду і бераг Комсамольскага мора. Ці захаваўся агонь у яхаў?

Пайшлі праверыць. У першай пячоры агонь ледзь тлеўся, а ўсе спалі. Расштурхалі нядбайных гаспадароў, прымусілі іх раздзьмухваць агонь і пайшлі ў другую пячору. Там агонь зусім пагас і раздзьмухваць не было чаго. І тут накрычалі, а потым Святлана сказала:

— Навошта нам крычаць, ваяваць, хвалявацца, калі ў іх будзе сталы агонь і яны заўсёды будуць магчы запаліць касцёр.

Гэтае меркаванне было зусім слушнае. Цяпер заставалася толькі перамясціць жыхароў. Як прыступіць да гэтай справы? З чаго пачынаць? Як ім растлумачыць, чаго ад іх хочуць? Шапка-перадатчык можа перадаць ім толькі паасобныя простыя паняцці, а тут трэба расказаць пра вялікія і складаныя меркаванні.

Урэшце пастанавілі так. Зрабіць з кактусаў дубцы і далікатненька гнаць імі паважаных жыхароў Зялёнай даліны туды, куды трэба для іх карысці.



— Магчыма, яны пакрыўдзяцца, — сказаў Светазар, — але што ты зробіш, калі інача́й нельга. Каб зрабіць гэтае перасяленне па-культурнаму, нам прышлося-б сядзець тут тысячу гадоў, пакуль яхі навучыліся-б гаварыць і разумець па-людску.

Так і зрабілі. Для пачатку ўзялі з першай пячоры двух маці з дзецьмі і ласкава пачалі іх падштурхоўваць да рэчкі, а потым да пячоры. Падыйшлі да ўваходу, спыніліся. А што далей рабіць? Пячора напоўнена газам, нават ля ўваходу стаяць нельга, а як увайсці ў сярэдзіну ды запаліць агонь?

— Мала таго, — дадаў Светазар, — а каб і ўвайшоў у якім-небудзь процівагазе ды запаліў агонь, то цябе разарваў-бы выбух газу, які запоўніў усю пячору. Ну што-ж, трэба шукаць другога спосабу. Ага! Зробім вось як: вы схавайцеся вось тут за скалой, а я запалю кактусавы смаляк ды кіну ў сярэдзіну.

Праз некалькі хвілін ён кінуў смаляк і схаваўся за скалой. Як загуло ў сярэдзіне, як шугане полымя з пячоры...

Счакаўшы некаторы час, яны асцярожна ўвайшлі ў пячору. Пах газу яшчэ адчуваўся, але дыхаць можна, а ў кутку, як і раней, бясклапотна калыхалася полымя.

— Цяпер усё ў парадку! — весела сказаў Светазар. — Займайце вашу кватэру, паважаныя грамадзянкі!

Адна з грамадзянак увайшла ў пячору, як у сваю ўласную кватэру, а за ёй нясмела ўвайшла і другая.

— Пачатак зроблены, — сказаў Светазар, — пойдзем вербаваць яшчэ жанчын з дзецьмі.

Яны «завербавалі» і перасялілі яшчэ чатыры маці, а тады паўстала пытанне: а ці не прыдзе сюды Бао, ці не выганіць ён новых жыхароў? Значыцца, трэба арганізаваць ахову.

— Ох, колькі клопату! — казалі падарожнікі, выціраючы пот. — Як цяжка наладзіць жыццё на другой планеце.

Потым пайшлі яны паглядзець, дзе знайшоў прытулак Бао са сваёй світай. Знайшлі іх у канцы даліны, у шчыліне між двух скал. Але там іх было толькі двое ці трое. Брат і сястра азірнуліся і ўбачылі, што на беразе рэчкі некалькі яхаў на чале з «самім» Бао збіраюць кактусы...

— Усё ў парадку! — сказаў Светазар. — Паразіты распачалі працоўнае жыццё. Мы можам спакойна ехаць дадому.

Яны вярнуліся да сваёй машыны. Вакол іх, як заўсёды, сабраліся яхі. Светазар выступіў перад імі з развітальнай прамовай.

— Вось што, браточкі: мы пакідаем вас, едзем дадому. Жывіце тут шчасліва, развівайцеся, больш старанна вучыцеся хадзіць і гаварыць, карыстайцеся агнём—і можа праз некалькі тысяч гадоў вы станеце сапраўднымі людзьмі. Не падпускайце блізка да сябе Бао, цяпер вы ведаеце, як гнаць яго ў шыю. Нам хацелася-б яшчэ многа му вас навучыць, ды на гэта патрэбна шмат гадоў. Мы не можам жыць з вамі столькі часу. Ды і клімат ваш нікуды не варты. Можа праз некаторы час мы наведаем вас, каб паглядзець, якіх поспехаў вы дасягнулі...

Сястра штурханула яго пад бок і сказала:

— Годзе ўжо! Чаго ты разышоўся? Не могуць-жа яны зразумець усяго таго, што ты гаворыш.

Светазар павярнуўся да яе і сказаў:

— А табе шкада, ці што? Нават калі яны зразумеюць хоць дватры словы, і тады прамова будзе карыснай. Не часта людзям з Зямлі дазодзіцца выступаць з прамовамі перад марсіянамі. Ну, бывайце, дарагія таварышы!



**Вяртанне**

Праз хвіліну яны ўжо зноў ляцелі даганяць сонца. Аднак дадому вяртацца яны яшчэ не маглі: яны не абследавалі ўсяго Марса. Яны пабывалі толькі ў Поўночным паўшар'і, а потым наведалі частку экватарыяльнага пояса. Трэба было цяпер заглянуць у Поўднёвае паўшар'е і аб'ехаць увесь Марс па экватару. Яны павярнулі на Поўдзень.

— Гэта толькі для таго, каб выканаць нашу камандзіроўку, — казаў Светазар, — а цікавага там мы нічога не ўбачым. Калі ўлетку тут прырода горшая за нашу тундру, то чаго-ж чакаць узімку.

І сапраўды, у Поўднёвым паўшар'і, дзе была цяпер зіма, карціна была такая, што і глядзець не хацелася. Тыя самыя голыя горы, бязмежныя пустыні, даліны і тундра, але ў гэты час зусім мёртвая.

— Хоць-бы гурбы снегу былі, як належыць узімку, і то весялей было-б глядзець. А тут толькі іней ці танюсенькі пласток снегу.

Вядома, нічога жывога ўбачыць тут нельга было, таксама як і ў Поўночным паўшар'і.

— Значыцца, тут яхі не жывуць? — спытала Святлана.

— Як бачыш, не жывуць, — адказаў Светазар. — Тым лепей, мы спакойна можам ляцець далей.

Да экватара яны вылецелі ля таго месца, дзе спыняліся мінулы раз, г. зн. каля другога мора.

— Пачакай, — сказала Святлана, — трэба-ж і яму даць назву.

— Прапаную назваць яго «Савецкім».

— Так і запішам, — згадзілася сястра.

Падарожнікі паляцелі далей на захад. Мора мела, мусіць, тысячу кілометраў у шырыню, а ў даўжыню значна болей. За ім пачалася знаёмая карціна — зялёныя даліны, ланцугі вялікіх і малых азёр, пустыні і горы.

Праз некаторы час падляцелі яшчэ да аднаго мора.

— Ого! — усклікнулі падарожнікі. — Гэта ўжо сапраўдны акіян!

Велічыня яго здавалася сапраўды акіянская, ды толькі надта многа было на ім нізкіх астравоў. Стваралася ўражанне, нібы ў часе разводдзя вада заліла вялікую нізіну. Паколькі акіян быў неглыбокі, а вялікіх вятроў на Марсе няма, то вада ў ім за ноч замерзла ўся; лёд растане толькі пад вечар, калі трэба будзе зноў замярзаць. Акіян гэты назвалі «Масюоўскім», хоць Святлана пярэчыла, што ён нявартьы такой назвы: шырыня яго складала тысячы дзве кілометраў. Далей яны ўбачылі мясцовасць, якая трохі нагадвала Зялёную даліну.

— Прыпынімся, — сказала Святлана, — можа і тут жывуць яхі.

— Ой, не! — усклікнуў Светазар. — Нам па экватары трэба праляцець дваццаць дзве тысячы кілометраў. Калі мы будзем наведваць усіх яхаў, то затрымаемся тут на многія месяцы.

Нарэшце яны заўважылі мясцовасць, якая ім здалася ўжо знаёмай. Гэта было тое месца, дзе яны пазнаёміліся з першымі яхамі. Толькі цяпер яны прыляцелі сюды з процілеглага боку, на той бераг возера, дзе яны першы раз убачылі яха з вязанкамі кактуса на спіне.

— Вось тут прыдзецца спыніцца, — сказаў Светазар. — Трэба праверыць ці захавалі яны агонь

Машына спынілася ля знаёмага ўваходу. Яхі мігам акружылі яе, вясёлыя, радасныя, многія з іх смяяліся.

— Значыцца, справы добрыя, — сказаў Светазар. — Агонь, відаць, не згас.

Прыемна было бачыць гэтых ашчаслiўленых істотаў, але вельмі не хацелася лезці да іх у бярлогу. Тым больш, што надта рупіла вяртацца дадому.

— Ну, добра! Жывіце шчасліва, — сказаў Светазар, не вылазячы з машыны.

І яны зноў зніклі з вачэй яхаў. Што думалі гэтыя бедныя стварэнні, як яны сябе адчувалі — ніхто не ведае.

Справаздача «камандзіраваных» унукаў свайму дзеду працягвалася некалькі дзён. Увесь расказ, усе падрабязнасці Пётр Трафімавіч старанна запісаў у свой сшытак і быў вельмі задаволены.

— Я так і ведаў, — казаў ён, пацiраючы рукі, — што прыблізна гэтак і павінна быць. Адкуль там цывілізацыя, вышэйшая за нашу, калі прырода такая неспрыяльная? Добра ўжо і тое, што там сякоетакое жыццё ёсць. Добра і тое, што развіццё жывых стварэнняў дасягнула такой ступені, як у гэтых яхаў. Навука даўно ўжо ўзяла пад сумненне каналы Скіяпарэлі, і мы цяпер бачым, што ніякіх каналаў на Марсе няма. Хутка прыдзе час, калі ўся навука будзе вывучаць тое, што адкрылі вы. А пакуль... пакуль прыходзіцца маўчаць. Да таго часу, калі і многія вучоныя змогуць сваімі вачамі ўбачыць тое, што бачылі вы.

А цяпер рыхтуйцеся да найбольш важнага падарожжа. Падарожжа на такую планету, як наша Зямля. Я ўжо казаў вам, што сярод мільярдаў планет нашай Галактыкі, такая планета абавязкова знойдзецца. Сіла фантазіі можа яе знайсці і азнаёміцца з ёю.



Рэдакцыя часопіса «Маладосць» просіць чытачоў прысласць свае водгукі на аповесць Янкі Маўра «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага», надрукаваную ў часопісе.

# ЮНЫЯ ГІСТОРЫКІ — КРАЯЗНАЎЦЫ

— Вось мы і прышлі, — сказаў настаўнік.

З вышыні кручы, як на далоні, быў відаць Сож. Ён упадаў у Дняпро якраз насупраць таго месца, дзе спыніліся ўдзельнікі экскурсіі.

— Бачыце кут, які ўтвараецца двума рэкамі? Там трыста год таму назад займалі пазіцыю беларускія паўстанцы на чале са Сцяпанам Падбайлам. Уніз па Дняпру перапраўляліся войскі польска-літоўскага гетмана Радзівіла, а сам ён з вялікім конным атрадам рухаўся ўздоўж гэтага крутога берага. Калі шляхецкае войска дасягнула Лоева, Радзівіл пачаў рыхтавацца да пераправы на левы бок Дняпра.

У гэты час з бліжэйшага лесу вылецела казацкая конніца. Ад удараў казацкіх шабель паляцелі на зямлю шляхецкія галовы. Гэта атрад палкоўніка Міхаіла Крэчэўскага, пасланага сюды Багданам Хмельніцкім, нечакана ўдарыў у тыл ворагу.

— А чым гэтая бітва закончылася? — парушыў напружаную цішыню чыйсьці голас.

— Перамога хілілася ў бок казакаў і беларускіх паўстанцаў. Але Крэчэўскі не ведаў, што ў гэты час непадалёку зусім выпадкова апынуўся значны конны атрад палякаў, які высылаўся раней Радзівілам насустрач казакам. Паяўленне свежых сіл ворага ў самы рашучы момант вырашыла зыход бою.

— Як-жа дзейнічаў у гэты час Сцяпан Падбайла? — дапытваліся вучні.

— Атрымаўшы звесткі аб пачатку бітвы, ён аддаў загад свайму атраду ісці на дапамогу Крэчэўскаму. Палякі паспелі расставіць на крутым беразе Дняпра гарматы, якія вялі пякельны агонь па паўстанцах, што перапраўляліся праз шырокую раку. Усё-ж значная частка паўстанцаў дасягнула процілеглага берага і кінулася ў бой. Але гэтых сіл было недастаткова, каб змяніць становішча ў карысць казакаў. Атрад Крэчэўскага адступіў да лесу. Сам камандзір загінуў смерцю героя.

З-за вялікіх страт і паўстання сялян, якое пашыралася на Беларусі, Радзівіл не мог рухацца ўперад. План утаржэння праз Беларусь на поўнач Украіны на гэты раз быў сарваны.

...Перад юнымі краязнаўцамі ажылі падзеі гераічнага мінулага нашага народа. Вучні дапаўняюць веды, атрыманыя на ўроках, новымі цікавымі звесткамі.

Гісторыка-краязнаўчы гурток у Суткоўскай сярэдняй школе існуе ўсяго два гады. Але яго ўдзельнікамі зроблена нямала па вывучэнню гісторыі роднага краю.

Работа пачалася з таго, што быў складзены спіс гістарычных месц Лоеўскага раёна. Значную дапамогу ў гэтай справе аказаў вучням Гомельскі абласны краязнаўчы музей, з якім яны ўстанавілі цесную сувязь. На падставе гэтага спісу Грыненка Юлія і Грыненка Пётр зрабілі карту гістарычных месцаў.

Затым вызначылася наступная тэматыка заняткаў гуртка: далёкае гістарычнае мінулае нашага раёна, удзел беларускага народа ў барацьбе супраць іншаземных захопнікаў у XVII—XVIII стагоддзях, рэвалюцыйны рух у нашым краі ў гады царызма, Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і грамадзянская вайна, Лоеўскі раён у перыяд Вялікай Айчыннай вайны і ў пасляваенны перыяд.

Калі на ўроках гісторыі праходзілі тэму «Першабытна-абшчынны лад на тэрыторыі нашай краіны», вучні зрабілі экскурсію на старажытныя славянскія гарадзішчы.

Членамі гісторыка-краязнаўчага гуртка створаны школьны гістарычны куток. Арганізацыі кутка папярэднічала шырокая прапаганда краязнаўства сярод усіх вучняў школы і мясцовага насельніцтва. У нашым раёне часта пры ворыве і іншых земляных работах знаходзяць старажытныя прылады працы, прадметы хатняга ўжытку і іншыя рэчы. Звычайна гэтыя знаходкі губляліся. Краязнаўчая прапаганда дала свае вынікі. У школьны гістарычны куток пачалі перадавацца рэчы, знойдзеныя калгаснікамі.

У кутку-музеі ёсць каменныя сякеры эпохі неаліта, гліняны посуд, наканечнікі стрэл, крамнёвыя нажы, манеты і іншыя рэчы. Вялікую цікавасць уяўляе рогавая матыга. Яна сведчыць аб тым, што земляробства было знаёма нашым продкам у глыбокай старажытнасці.

Тут-жа захоўваюцца пісьмовыя дакументы па гісторыі нашага раёна, схемы, дыяграмы, планы гарадзішчаў, карціны, намаляваныя мастакамі-краязнаўцамі.

Старанна працуюць вучні над афармленнем альбома наглядных дапаможнікаў па гісторыі свайго раёна. Гістарычны куток папаўняецца пасля кожнай экскурсіі або паходу.

Цікавы матэрыял сабралі юныя гісторыкі аб рэвалюцыйным сялянскім руху ў 1905—1907 гг. у нашым раёне. Яны наладзілі сувязь з актыўным удзельнікам гэтага руху — А. А. Чысцікам, які прыслаў падрабязнае апісанне падзей, што тут адбываліся, і перадаў краязнаўцам копію прыгавору царскага суда, вынесенага яму за ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг. Зараз вучні збіраюць матэрыялы аб дзейнасці мясцовай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, якая ўзнікла ў Лоеве ў канцы 1904 г. Члены гуртка падрыхтавалі краязнаўчы матэрыял да 50-годдзя першай рускай рэвалюцыі.

Асабліва цікавяцца вучні падзеямі, якія адбываліся ў нашым раёне ў час Вялікай Айчыннай вайны. Яны сабралі матэрыял аб пераправе праз Дняпро ў 1943 годзе партызанскіх атрадаў Каўпака. У Лоеве ёсць плошча, на якой славуты партызанскі камандзір прымаў парад сваіх войск. Вучні неаднаразова наведвалі хату, у якой размяшчаўся штаб партызанскага злучэння. У Лоеве партызаны адзначылі XXV-ю гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Агітатары праводзілі сходы ў многіх суседніх вёсках. Недалёка ад Лоева быў разгромлены нямецкі батальён, які меў заданне выбіць партызан з горада.

У Лоеўскім раёне базіравалася мясцовая партызанская брыгада «За Радзіму».

Вучні цікавяцца таксама гісторыяй развіцця сельскай гаспадаркі ў нашым раёне. Яны сабралі матэрыялы па гісторыі Баршчоўскай МТС, у якой многія з іх будуць працаваць, закончыўшы школу. Краязнаўцы склалі схемы і дыяграмы, якія адлюстроўваюць рост механізатарскіх кадраў і тэхнікі МТС за апошнія гады. Вучні знаёмяцца не толькі з мінулым МТС, але і з перспектывамі яе развіцця ў будучым. Гэта павышае іх цікавасць да сельскай гаспадаркі і ўзмацняе жаданне хутчэй уключыцца ў работу па далейшаму ўздыму сельскай гаспадаркі.

Гістарычнае краязнаўства мае вялікае адукацыйнае і выхаваўчае значэнне. Яно садзейнічае паглыбленню ведаў вучняў па гісторыі, геаграфіі, Канстытуцыі СССР, палягчае засваенне праграмнага матэрыялу. Апрача таго, яно дапамагае вучням разумна і карысна праводзіць свой адпачынак.

Скончыцца зіма. Настануць цёплыя летнія дні. Юных краязнаўцаў зноў чакаюць цікавыя падарожжы, гутаркі ля кастроў, вясёлыя прывалы ля гістарычных месцаў.

**Г. ШТЫХАЎ,**
**выкладчык гісторыі Суткоўскай сярэдняй школы Лоеўскага раёна.**

Міхась МАШАРА

## МАСКВЕ

**Масква! Ты маяком усім нам свеціш!**
**Сагрэты цёплай ласкаю тваёй,**
**цябе мы любім, родная, як дзеці, —**
**навек мы злучаны з табой.**

**Нас партыя наша здружыла,**
**навек мы адданыя ёй,**
**і шчасце, і радасць, і сілу**
**у дружбе знайшлі мы з табой.**

**Да сонца ўсе адкрыла нам дарогі,**
**з табою мы шчасліва зажылі.**
**За мір сцягі ты ўзняла перамогі,**
**за люд працоўны на зямлі.**

**З'еднала ты народ наш у дзяржаву,**
**больш не прысніцца нам няволі здзек.**
**Жыві, жыві, Масквы вялікай слава**
**і дружба наша з века ў век!**

## ПЕТРАЗАВОДСК

**Я здаўна аб поўначы марыў,**
**гранітныя сніліся скалы**
**і сцежкі на скалах да хмараў**
**герояў сівой Калевалы.**

**Лясного прастору бязмежжа,**
**зімою пакрытае снегам,**
**і вечны прыбой на ўзбярэжжы,**
**як мора, вялікай Анегі.**

**І вось я ў сталіцы поўночнай**
**Пятроўскі завод агледаю...**
**Па вуліцах горада крочу,**
**братоў сваіх шчыра вітаю.**

**Тут людзі руду здабывалі**
**ў затоках Анегі глыбокай,**
**каб ярасна пушкі стралялі**
**на полі палтаўскім шырокім.**

**А хвалі Анегі шумелі,**
**кідаліся зверам на скалы...**
**А потым спадалі... нямелі...**
**ля першых Пятроўскіх прычалаў.**

**Няма больш старых тых прычалаў.**
**Сягоння тут прыстань, як трэба...**
**Былое легендаю стала,**
**Цяплейшым — поўночнае неба.**

**Зірні вось цяпер на кварталы,**
**што зараз паўсталі на скалах.**
**Палацаў такіх не бывала**
**і ў казках сівой Калевалы.**

**І вось я хаджу, разважаю,**
**на поўнач прыехаўшы ў госці,**
**нібы між азёраў шукаю**
**хвіліну маёй маладосці.**

**Падобна Карэлія вельмі**
**на край мой Браслаўскіх азёраў,**
**дзе сосны, спавітыя хмелем,**
**амаль дасягаюць да зораў.**

**Д. МІЛАШЭЎСКІ**

# ЗАЦВІЦЕ АЛОЭ

Кволая галінка алоэ неяк зморшчылася, пажухла. Густы налёт пылу пакрыў яе баразёнкі, зубчыкі. Тамара Сяргееўна Лаўнёва асцярожна выцірала вазон вільготнай марляю, у думках папракаючы сябе: «Не дагледзела вось некалькі дзён, і расліна ледзь не загінула».

Тамара Сяргееўна доўга не магла зразумець, чаму раптам перад яе вачыма яскрава паўсталі куцыя, растапыраныя ў бакі косы, цёмныя, з хітрынкай вочы неўгамаванай каратышкі Галі Крамарскай з V «А» класа. Прыгадаўся адзін з апошніх урокаў батанікі. Як толькі Тамара Сяргееўна раскрыла класны журнал, яна адразу-ж заўважыла насупраць прозвішча Крамарскай адзнаку «4», пастаўленую чужой рукой.

— Я цябе выклікала на мінулым уроку, Крамарская?—стараючыся быць спакойнай, запытала настаўніца.

Дзяўчынка спачатку апусціла галаву, потым яе вочы хітравата забегалі.

— Ага, — спакойна адказала яна.

— Можа і сёння ты хочаш адказваць?

Галя падыйшла да стала і пачала хутка-хутка перабіраць пальцамі край чорнага фартушка. Паспрабавала адказваць, ды так і замоўкла на поўслове.

— Што-ж, Галя, выходзіць, ты завысіла сабе адзнаку, — строга паглядзела на яе настаўніца. — Прыдзецца табе двойку паставіць.

У тую хвіліну Тамары Сяргееўне хацелася накрычаць на вучаніцу, прачытаць ёй суровую натацыю. Але стрымалася і спакойна працягвала ўрок.

А цяпер, выціраючы дома вазон, Тамара Сяргееўна нечакана для самой сябе па-новаму ўспрыняла гэты выпадак. Яна нават зразумела чаму. Іменна гэтая кволая галінка алоэ і дзіўная выхадка дванаццацігадовай вучаніцы зноў напомнілі маладой настаўніцы любімыя словы старога метадыста з універсітэта: «Па профілю сваёй прафесіі вам прыдзецца мець справу з зялёным другам чалавека — дрэвамі, раслінамі. Прывіць да іх любоў другім можна тады, калі сам горача палюбіш зялёнага друга. А самае галоўнае, сябры, трэба любіць і клапатліва вырошчваць юных грамадзян — гэты малады параснік, будучыню нашай Айчыны».

Гэтыя словы метадыста Тамара Сяргееўна ўспамінала вельмі часта. І зараз яна падлавіла сябе на тым, што шукае ў іх разгадку паводзін Галі Крамарскай. У памяці пачалі ўзнікаць адзін урок за другім.

Прыемна, калі дзесяткі рабят, затаіўшы дыханне, прагна ловяць кожнае тваё слова. Яны так і імкнуцца сваім дапытлівым розумам да ўсё новых і новых таямніц дзівоснага, невядомага ім свету. І калі ты, настаўнік, бачыш гэтую напружаную дапытлівасць дзяцей, у цябе з'яўляецца натхненне. Быццам крыллі, яно прыўзнімае цябе. Словы тады ліюцца вольна, яны такія-ж крылатыя, як і твой настрой.

Але дрэнна, калі, захапіўшыся сваім натхнёным расказам, ты не заўважыш, што на задняй парце хлопчык або дзяўчынка малюе нешта ў сшытку ці думае аб чымсьці другім.

У V класе «А» большасць рабят вельмі любіць батаніку. Тамара Сяргееўна зразумела гэта ўжо з першага ўрока. Відаць гэта і з вучнёўскіх адказаў, аб чым сведчаць добрыя і выдатныя адзнакі ў журнале.

Але ёсць у класе і такія вучні, што актыўнасці на ўроках батанікі не праяўляюць, пытанняў не задаюць. І неяк атрымоўвалася так, што яна, настаўніца, звяртала на іх мала ўвагі. І вось вынік — Крамарская сама паставіла сабе добрую адзнаку. Гэта не свавольства і не злосны ўчынак: дзяўчынка не жадае вучыць батаніку, не цікавіцца ёю. Калі нават усім класам хадзілі за горад на экскурсію, Галя абыякава адносілася да ўсяго акаляючага: моў, я гэта дзесяткі разоў бачыла без экскурсій і нічым мяне не здзівіш.

А ў гэтай самай Галі наперадзе вялікая і светлая дарога ў жыццё. Праз некаторы час з яе можа выйсці таленавіты аграном, селекцыянер. Магчыма, дзяўчынка і не ўяўляе цяпер, што ў яе тояцца такія задаткі.

Тамара Сяргееўна закончыла выціраць вазон, зноў прыслаліла да яго вялікую факультэцкую фотакартку. Сярод шматлікіх авалаў сваіх аднакурснікаў знайшла квадратны здымак метадыста, усміхнулася:

«Нічога, паважаны настаўнік, выпраўлю свае промахі, чэснае слова, выпраўлю. Алоэ таксама зацвіце».

Да позняй ночы яна рыхтавалася да заўтрашняга ўрока.

Было яшчэ зусім рана, калі настаўніца сабралася ў школу. Апрача ўрокаў, у гэты дзень, як і заўсёды, яе чакала многа іншых спраў. Сёлета ў пачатку навучальнага года агульны комсамольскі сход школы выбраў яе ў камітэт комсамола. А члены камітэта аднагалосна выбралі сакратаром. І не дзіўна, што нямала часу прыходзіцца ўдзяляць рабоце арганізацыі: школьная комсамольская сям'я налічвае каля чатырохсот чалавек.

Каля піонерскага садзіка з Тамарай Сяргееўнай параўняўся Грыгорый Жыгала, сакратар комсамольскай арганізацыі IX «Б». Прывітаўся, некаторы час ішоў моўчкі. Па тым, як юнак часта заглядаў ёй у твар, настаўніца здагадалася, што Грыгорый хоча штосьці сказаць.

— Ты, Грыша, нешта сказаць мне хочаш? — падахвоціла яго настаўніца.

— Са сходам у нас не зусім ладзіцца, Тамара Сяргееўна, — рашыўся, нарэшце, Грыгорый.

— Па-мойму-ж, дамовіліся. Вы нават самі тэму прапанавалі. — Тамара Сяргееўна ўрачыста прадэкламавала: — «Если тебе комсомолец имя, крепи же его делами своими». Цудоўная тэма!

— Тэма і нам усім падабаецца. І рабяты ўсе з ахвотай рыхтуюцца. Прыклады з жыцця нашага класа думаем прывесці.

— Ну, дык усё-ж ідзе як не трэба лепш...

Грыгорый загаварыў так хутка, нібы спяшаўся растлумачыць усё адразу:

— З адмоўнымі прыкладамі не ведаем, што рабіць. Зямской і Трошкін настойваюць, што не трэба іх прыводзіць. Кажуць, сход так урачысты, узнёслы, а мы тут будзем розныя дробязі скланяць. Можа і праўда, Тамара Сяргееўна? У нас...

Тамара Сяргееўна рашуча запярэчыла:

— Па-твойму, гэта дробязь, што комсамольцы Царанкоў і Мурашка не жадалі працаваць на ўборцы бульбы? Дробязь, што ў некаторых вучняў па некалькі двоек? А выпадак у час спартакіяды таксама дробязь?

Яна мела на ўвазе Мікалая Пахомава, калі ён з-за глупства пасварыўся з таварышамі і адмовіўся адстойваць чэсць сваёй школы на гарадскіх спаборніцтвах. Хоць каманда і без яго заваявала прыз, але мікалаевым учынкам усе вельмі абурыліся.

— Сам памяркуй, у вас атрымаецца сход аб нейкіх абстрактных комсамольцах. А вы так: і добрае і дрэннае — усё начыстату.

Сёння Тамары Сяргееўне асабліва прыемна было тое, што да яе многія звярталіся з рознымі пытаннямі. Член камітэта комсамола Галіна Шостак прышла параіцца, каго лепш назначыць атрадным важатым у VI клас «А»: добрага фізкультурніка Юрыя Зямскога ці зацейніцу Лену Славіну. Сямікласніцы Іна Савіна і Люда Абручнікава прынеслі паказаць аформлены гербарый поўднёвых раслін і кветак. Улетку дзяўчынкам пашчасцілася па-



... Галя Крамарская падыйшла да стала і пачала ўпэўнена адказваць урок.

Фото Р. Каралёва.

быўаць на Каўказе. Тамара Сяргееўна падала ім думку прывесці сабраныя там расліны ў парадак і перадаць у падарунак школе для біялагічнага кабінета.

Нават вопытны педагог Пётар Грыгор'евіч Будзееў таксама вырашыў параіцца са сваім калегай. Зараз за ім замацаваны VII клас «Б», якім два гады кіравала Тамара Сяргееўна. Размова ішла пра Гену Пчэльнікава. Апошні час ён зноў пачаў свавольнічаць на ўроках, а нядаўна нават моцна пакрыўдзіў дзяўчынку.

— Ён здольны і энергічны хлопчык, Пётр Грыгор'евіч, — гаварыла Тамара Сяргееўна. — Няма яму дзе энергіі дзець, ён і дурэе. Няхай совет атрада падбярэ яму даручэнне па душы, вось і будзе куды разумна прымяніць энергію.

Застаўшыся адна ў біялагічным кабінеце, Тамара Сяргееўна прысела на стул, задумалася. Дзень толькі пачаўся, а столькі людзей звярталася да яе з рознымі пытаннямі. Кожны чамусьці спадзяецца, што яна абавязкова ўсё вырашыць, параіць, падкажа. І як гэта крыўдна і балюча, калі ты сам у многім адчуваеш сябе яшчэ няўпэўненым, нават бяссільным.

І перад вачыма настаўніцы зноў паўсталі растапыраныя касічкі Галі Крамарскай.

Празвінеў званок. Тамара Сяргееўна дастала з шафы муляжны чэрап чалавека і накіравалася ў VIII клас. Каля лесвіцы стаялі двое хлапчукоў і спрачаліся.

— Я табе кажу, што яна проста ўмёрзла ў лёд, — аўтарытэтна даказваў большы.

Белакуры малыш, відаць другакласнік, адмоўна круціў галавой.

— А вось і няпраўда. Яна пад вадой ляжыць.

Тамара Сяргееўна прыслухалася.

— Будзем ісці дамоў, сам паглядзіш, — рашыўся на апошні довад хлопчык. — Хочаш, прасячэм лёд і дастанем яе.

— Тады тая лягушка нежывая, — не здаваўся малыш.

— Зразумела нежывая. А вясной ажыве. Так усе лягушкі робяць. У іх летам кроў халодная. Ад марозу ёй нічога не зробіцца. Нам Тамара Сяргееўна расказвала.

— Тады сходзім паглядзім, праўда? — вялікія вочы другакласніка нечакана засвяціліся нейкім захапленнем і шчырым давер'ем да слоў старэйшага таварыша.

«Вось мой вучань перакanaў, — усміхнулася Тамара. — Малыш упершыню пачуў пра зімоў'е лягушкі, а ты перакanaў. І зацікавіў. А я, выходзіць, яшчэ не заўсёды магу зацікавіць вучняў...»

Апошнім урокам у V «А» была батаніка. Тамара выклікала некалькі вучняў, закрыла журнал. Рабяты таксама пахавалі ў парты свае падручнікі, падрыхтаваліся слухаць. Яны былі крыху здзіўлены, што на гэты раз настаўніца не прынесла з сабой ні табліц, ні засушаных лістоў. Здзівіў іх і пачатак расказа Тамары Сяргееўны. А пачала яна свой расказ з таго, як з непамерных вышыняў на зямлю ўпаў сонечны прамень. Ён абудзіў парастак невялікага зярняці, якое ляжала ў застыглай глебе. Гэты парастак прасвідраваў пульхныя камякі глебы, прабіўся на паверхню. З кожным днём ён усё вышэй і вышэй узнімаўся ўгору, імкнучыся бліжэй да сонца. А праменні сагразалі ў глебе патрэбныя яму спажыўныя сокі, дапамагалі наліцца важкім зярнятам. Калі людзі сабралі збожжа, сонца пачало хадзіць ніжэй над гарызонтам, праменні страцілі ранейшую сілу і цяплыню аж да наступнае вясны.

Тамара Сяргееўна расказвала далей, як савецкія людзі навучыліся вырошчваць цеплалюбівыя расліны і дрэвы ў суровых умовах поўначы, як ім дапамагае ў гэтым перадавая аграбіялагічная навука, часткай якой з'яўляецца і батаніка.

— Савецкі чалавек — магутны пераўтваральнік і ўладар прыроды, — закончыла расказваць настаўніца. — Настане і такі час, калі ён выведзе дрэвы, якія будуць пладаносіць круглы год.

На задняй парце ўзнялася рука. Настаўніца кіўнула галавой.

— А кветкі такія можна вырасціць, каб і зімой цвілі? Пад адкрытым небам?

Гэта было першае пытанне Галі Крамарскай.

**7-я сярэдняя школа,**
**г. Баранавічы.**

# САТЫРА І ГУМАР

Рыгор **ПАДГОРНЫ**



## Мушка

ГУМАРЭСКА

Мал. Е. Ганкіна.

Нэлі Карунчык сёння прачнулася надзвычай рана. Толькі праз шырокае акно спальні пачаў прабівацца сіняваты зімовы ранак, на ложку спачатку заварушылася коўдра, а потым з-пад яе вынырнула ўскудлачаная, уся абвязаная нейкімі касічкамі і абвешаная цёмнакарычневымі гумавымі пярсцёнкамі нэліна галава. Дзяўчына раз-другі пацягнулася, пазяхнула так, што, здавалася, рот раздзярэцца, і спрытна саскочыла з ложка на воўчую скурку, якая была разаслана каля ложка.

Нэлі паморшчыла свой і без таго кірпаты носік, пацёрла кулачком вочы і, убачыўшы, што няма на спінцы ложка яе шаўковага халаціка, крыкнула:

— Мама! Матулька! А дзе мой халацік?

— Ды от тут. Пачакай, адпрасую, а то ён, як ануча, зрабіўся, — пачулася з другога пакоя.

— Ты хутчэй, мне няма часу...

Маці, дабрэйшая Марына Карпаўна, натупаўшыся за ранак на кухні, не вельмі спяшалася. Яна ведала, што дачка ідзе ў школу на другую змену і вылазіць з пасцелі не раней, чым у дзесяць гадзін. А сёння?.. Чаго-ж сёння яе Нэлі гэтак рана ўсхапілася? Маці хуценька прайшлася раз-другі па халаціку, выключыла прас, павесіла на руку халацік і ўвайшла ў спальню. Яна ўбачыла дачку перад люстэркам, якое стаяла на туалетным століку. Тоненькімі пальчыкамі, нібы беручы што брыдкае, дзяўчына выплятала з валасоў касічкі, выкручвала гумавыя пярсцёнкі і шмаравала грабянцом завіткі валасоў. На століку ляжаў тоўсты стус нейкіх фотаздымкаў.

Маці павесіўшы на спінку крэсла шаўковы халацік, сказала:

— На, надзявай.

— Няма калі, хіба ты не бачыш, што я занята.

— Куды-ж гэта ты так рана выбіраешся? — спытала маці і накінула на плечы дачкі халацік.

— У фотаатэлье... Мамачка, ты разумееш, мне патрэбна прыгожае фото. Юрка просіць, каб я прыслала.

Маці добра памятае рослага не па гадах хлопца. Яны разам вучыліся ў дзевятым класе «Б». Ён часта да іх заходзіў рабіць урокі. Нічога не скажаш, хлопец як хлопец. Сціплы, працавіты. Бывала, Нэлі толькі звоніць сваім пявучым галаскам, а ён як сядзе за стол ды як урупіцца ў задачу ці ў што-небудзь іншае, дык і галавы не падыме, пакуль не даб'ецца свайго. Ён шмат чым дапамагаў Нэлі. Маці за гэта можа крыху і ўдзячна Юрку. Але вось бацька, Кірыла Іванавіч, які з ранку да вечара сядзеў над сваімі бухгалтарскімі кнігамі і рэдка калі нават быў дома і бачыў дачку, дык той часам нават злаваў на хлопца, бо, можа, каб не ён, дык Нэлі сама прывыкла-б думаць. І ў тым, што Нэлі засталася ў дзевятым класе на другі год, бацька схільны быў вінаваціць і Юрку. А маці тым часам да Юркі нічога не мела такога, што выклікала-б у яе душы пратэст супраць гэтага сціплага хлопца. Тым больш, што ён цяпер далёка. Яна ўбачыла на стале ў Нэлі яго фотакартку, на якой Юрка быў сфатаграфаваны на ўвесь рост. Вельмі-ж пасаваў яму вайсковы касцюм. Чорныя з залацістымі каймамі пагоны курсанта ваеннага вучылішча, здавалася, падкрэслівалі смуглявасць яго твару. Гэткі прыгажун Юрка! І не дарма Нэлі так усхадзілася з уборамі для фатаграфавання... Галава яе была ўжо як неахайна складзеная капа свежага сена, а па кудзерках яшчэ ўсё хадзіў і хадзіў чырвоны грабеньчык. То так, то гэтак, то яна рабіла прабор пасярэдзіне, то на баку. У мінулым годзе ў яе былі яшчэ доўгія залацістыя косы. Бывала, як возьмецца іх расчэсваць, дык ледзь не ламантуе — жыўцом ірве з галавы, злуе нямаведама на каго.

— На чорта яны мне, гэтыя косы!.. — крычала яна кожную раніцу. — От пайду і адрэжу, завіўку зраблю.

Маці спрабавала ўгаварыць, уціхамірыць дачку.

— Адрэзаць гэткія косы не штука, а вось паспрабуй выгадаваць іх, — гаварыла яна.

Але Нэлі не слухала матчынай гаворкі і яшчэ з большай злосцю шматавала валасы.

— Ты-ж зусім лысай станеш, калі будзеш так абыходзіцца з косамі. Ідзі ўжо зрабі завіўку, калі косы табе так замінаюць.

І вось цяпер Нэлі сядзіць перад люстэркам, глядзіць на сваю галаву і дзіву даецца, якая яна ўскудлачаная. Яна папрасіла маці, каб тая апырскала валасы вадой: яны будуць больш падатлівымі. З гадзіну скакаў чырвоны грабеньчык па залацістых кудзерках нэліных валасоў, пакуль яны паслухмяна прылеглі і галава крыху стала падобнай на галаву. Потым Нэлі паліравала пазногцікі. Ёй здавалася, калі яна іх не адпаліруе, то на фото выйдзе нямаведама як.

Нэліны рукі хуценька перабіралі, тасавалі, нібы карты, фотаздымкі славутых артыстаў. Нарэшце позірк яе спыніўся на адным са здымкаў, з якога на дзяўчыну глядзелі глыбокія вочы. Здымак ёй усміхаўся, і вельмі-ж пасавала гэтай усмешцы маленькая чорная мушка.

— Мама, — закрычала Нэлі. — У цябе ёсць ляпіс?

— Навошта ён табе, дачушка.

— Трэба мне. Хутчэй пашукай!

Пакуль маці шукала ў хатняй аптэцы аловачак ляпісу, Нэлі прымервалася, дзе ёй уляпіць чорненькую маленькую мушку. Яна раз-пораз кідала позірк то ў люстэрка на сябе, то на

фотакартку, якую яна трымала перад сабой у правай руцэ. Нарэшце, указальным пальцам левай рукі яна прыціснула скулу на правай шчацэ.

— Давай хутчэй, мамачка, ляпіс.

— Ды от недзе заваліўся, знайсці не магу.

— У цябе заўсёды так, калі што трэба, дык ніколі не знойдзеш, — сказала са злосцю Нэлі, трымаючы палец на шчацэ.

Хвілін з пяць маці шукала аловачак ляпісу і калі працягнула яго Нэлі, тая ўзрадавана засмяялася. Уляпіла яна мушку, зірнула яшчэ раз у люстэрка і аж крыкнула:

— Мамачка, зірні, як прыгожа!!.

Маці глянула на дачку, і па твары яе разлілася лагодная ўсмешка. Яна прыгарнула дзяўчыну да грудзей і толькі сказала:

— Дачушка мая родненькая, якая-ж ты прыгожая з гэтай мушкай.

У фотаатэльe Нэлі ішла ў добрым настроі. На шчацэ ў яе сядзела чорненькая, акурат такая, як у тае актрысы, мушачка. Бровы былі таксама падфарбаваны і выведзены дужкамі над сінімі вачыма. Яна нават забылася пра ўчарашнюю непрыемнасць у школе, калі ёй Іван Пятровіч, іх выкладчык фізікі, паставіў двойку за тое, што яна не ведала законаў Фарадэя.

У павільёне, дзе рыжы, гэткі-ж патлаты, як і Нэлі, фатограф прыладжваў белае прасціраддла, — мусіць, для таго, каб святлей было, — дзяўчына адчувала сябе добра. Нават тады, калі яе разоў з дзесяць павярнулі на крэсле, яна не ўпадала ў роспач. Колькі не ставіў той рыжы галаву Нэлі, яна ўсёадно яе паварочвала так, каб тая чорненькая мушка сядзела на віду.

Нарэшце, паскакаўшы каля вялізнай скрынкі-фотаапарата, фатограф сказаў:

— Дзякую. Гатова.

— А як вы думаеце, добра атрымаецца?

— У нас ніколі дрэнна не атрымліваецца, — самаўпэўнена адказаў фатограф.

Нэлі развіталася і пайшла дахаты ў добрым настроі. Мушка сядзела там, дзе трэба.

Дзяўчына з нецярплівасцю чакала таго дня, калі ёй трэба будзе ісці па фотаздымкі. Яна ўжо ў школе пахвалілася ўсяму класу, што ў яе хутка будзе такое фото, якога не было ні ў кога ў класе. Дні тры таму назад яна зайшла ў атэльe даведацца, ці не сапсаваны негатыў. Жанчына, што прымае заказы, выняла нейкі канверт, паглядзела і, усміхнуўшыся, сказала:

— Усё ў парадку. У суботу прыдзеце па карткі.

І вось, нарэшце, тая субота. Нэлі, нават не паснедаўшы, пабегла ў атэльe. Жанчына доўга капалася ў прыскрынку і, злічыўшы нумар на квіце з нумарам на канверце, выняла яго з прыскрынка, дастала адтуль адну фотакартку, зірнула на яе і сказала Нэлі:

— Цудоўна вы выйшлі, проста, як жывая, — і падала ёй канверт.

Нэлі з захапленнем, нават у нейкім экстазе, веерам разгарнула на століку ўсе шэсць здымкаў, кінула на іх позірк і аслупянела. І без таго круглыя яе вочы яшчэ больш акругліліся, у іх відаць было здзіўленне, незадаволенасць. Жанчына глядзела на Нэлі і не разумела, у чым справа.

— Вы-ж вельмі добра выйшлі, як жывая...

— Як жывая! Як жывая! — з крыўдай у голасе сказала Нэлі. — А мушка дзе?

— Якая мушка? — і жанчына зірнула на нэлін твар. — У вас-жа няма ніякай мушкі.

— От тут павінна быць. — Нэлі тыцнула пальцам у фотаздымак, а потым у шчаку. — От тут была.

— А дзе-ж яна цяпер?

— Змылася.

Жанчына ўсміхнулася. Яна здагадалася, што рэтушор зняў з негатыва мушку.

— Ведаеце, у нас такое правіла: рэтушор здымае з негатыва ўсялякія барадаўкі, радзімкі, каб твар чысты быў. Відаць, ён і вашу мушку палічыў за радзімку ці за барадаўку.

— Палічыў! Палічыў! От я не вазьму фото, няхай той ваш рэтушор на ўспамін іх бярэ сабе.

— Што вы, грамадзянка, — пасур'ёзнела ўжо жанчына. — Такое фото не браць?!

— Не вазьму, вось і ўсё, — і Нэлі выбегла з атэльe, нават не развітаўшыся, пакінуўшы раскладзеныя веерам на стале шэсць сваіх фотаздымкаў.

Вярнулася дахаты Нэлі позна ўвечары. Настрой у яе быў канчаткова сапсаваны адсутнасцю мушкі на шчацэ і тым, што Іван Пятровіч, не зважаючы ні на што, паставіў ёй другую двойку.

Маці, сабраўшы на стол вячэру, сказала:

— Ідзі, дачушка, падсілкуйся трохі.

Нэлі нават у яе бок не зірнула. Маці зразумела, што ў дачкі нешта няладна.

— Што ў цябе, Нэлі, непрыемнасці?

— Маўчы хоць ты, — агрызнулася дачка. — Усе на мяне. Іван Пятровіч двойкамі пячонкі мне пераеў.

— А дзе-ж твае фотакарткі, — ты-ж павінна была сёння ўзяць.

— Ідзі ды вазьмі, калі яны табе трэба.

— Што? Хіба сапсавалі? — спытала маці.

— Ды ўжо-ж, сапсавалі... Мушку тую, што я наляпіла ляпісам, зрэзалі.

— А божа-ж мой, дык навошта-ж яны? Гэтак прыгожа было!

— Не трэба мне такія фотакарткі. Не буду я нікому пасылаць, браць іх не буду, — і Нэлі, са злосцю схапіла са століка юркаў фотаздымак і шпурнула ў альбом.

Бацька прышоўшы з работы, стаяў пры дзвярах першага пакоя і чуў усю дочкіну тыраду. Нарэшце, ён не ўтрымаўся. У яго ўскіпела злосць, і ён ужо, як цёмная хмара, наступаў на жанчын.

— Дык, кажаш, зноў Іван Пятровіч двойку паставіў?

— Паставіў, — і слёзы накаціліся на вачах у Нэлі.

— Мушкі ў цябе і тваёй маці ў галаве гуляюць, от што я вам скажу.





## ТЭЛЕВІЗАР „БЕЛАРУСЬ"

Мінскі радыёзавод — адно з маладых прадпрыемстваў беларускай сталіцы, што пачалі даваць сваю прадукцыю ўсяго дватры гады таму назад. Аднак і за гэты кароткі час прадукцыя радыёзаводцаў набыла вялікую папулярнасць не толькі ў рэспубліцы, але і за яе межамі. Асабліва ўзрасла слава мінскай маркі пасля выпуску аднаго з лепшых савецкіх прыёмнікаў — «Беларусь-53».

Якімі-ж творчымі поспехамі адзначылі радыёзаводцы пачатак новага, 1955 года?

Поспехі гэтыя немалыя. Значна зменена і ўдасканалена серыйная радыёла: яна прыстасавана для праігрывання, побач са звычайнымі, так званых доўгаграючых пласцінак. Але галоўнае, што радуе сёння, — гэта выпуск першай вопытнай серыі дваццаціпямпавага тэлевізара «Беларусь», які паспяхова вытрымаў дзяржаўныя выпрабаванні і прыняты да масавай вытворчасці.

Экран тэлевізара «Беларусь» такі-ж, як і ў «Авангарда» — 240 x 180 мм. Але мінскі тэлевізар мае цэлы шэраг пераваг: ён больш зручны для вытворчасці (як кажуць, тэхналагічней), валодае больш выразным гукам, мае лепшы выгляд.

У распрацоўцы канструкцыі першага беларускага тэлевізара самы актыўны ўдзел прымала моладзь радыёзавода. Стварэнне яго было сапраўдным экзаменам на творчую сталасць для маладых спецыялістаў-камсамольцаў — вядучага інжынера Яўгенія Шпільмана, інжынераў Леаніда Зубко і Леаніда Асоўскага.

**В. ПАНАМАРОЎ.**

На здымку: **камсамольцы Леанід Асоўскі, Леанід Зубко і Яўгені Шпільман каля першых тэлевізараў «Беларусь».**

Фото А. Дзітлава.

## „ГОНКІ МАЦНЕЙШЫХ"

Тры гады назад упершыню быў дадзены старт цікавых спаборніцтваў лыжнікаў рэспублікі — «гонцы мацнейшых». Зараз гэтыя спаборніцтвы сталі традыцыйнымі. У маляўнічай мясцовасці непадалёку ад Мінска, у раёне вёскі Раўбічы, праляглі багатыя крутымі пад'ёмамі, спускамі і рэзкімі паваротамі трасы лыжных гонак. На гэтыя захапляючыя спаборніцтвы памерацца сіламі збіраюцца лепшыя лыжнікі Беларусі. Нядаўна была праведзена «гонка мацнейшых» гэтага года. Пераможцамі «гонкі мацнейшых» 1955 года сталі М. Балашоў («Спартак»), Л. Татур (АДА), А. Кальцоў (АДА), Г. Кобызева («Праца»).

**Л. СЯРГЕЕЎ.**

# Песня дружбы

Словы А. БЯЛЕВІЧА. Муз. Ул. АЛОЎНІКАВА.

Largo maestoso

Як з Вол-гай злі-ва-юц-ца рэ-кі, — мы злі-ты з Ра-сі-яй на-век. Ра-дней нам ня-ма ча-ла-ве-ка, чым рус-кай ду-шы ча-ла-век.

cresc. dim. poco rit.

Più mosso

Ой, ка-лы-ша дуб-ро-ву ды не ве-цер кры-ла-ты, — на-ша доб-ра-е сло-ва сла-віць рус-ка-га бра-та. То не На-рач вы-со-ка ко-ціць хва-лі на тра-вы, — то шы-ро-ка, да-лё-ка на-ша ко-ціц-ца сла-ва. Як... ва, То шы-ро-ка, да-лё-ка, на-ша ко-ціц-ца сла-ва.

rall.

Як з Волгай зліваюцца рэкі,
Мы зліты з Расіяй навек.
Радней нам няма чалавека,
Як рускай душы чалавек.

Прыпеў:

Ой, калыша дуброву
Ды не вецер крылаты, —
Наша добрае слова
Славіць рускага брата.
То не Нарач высока
Коціць хвалі на травы, —
То шырока, далёка
Наша коціцца слава!

Як зоранька з яснай зарою
Сябруе вячэрняй парой,
Так мы з нашай роднай Масквою,
З любімай Расіяй-сястрой.

(Прыпеў).

Як сонейку яснаму ўсходы,
Так рады мы роднай Маскве.
Хай славяцца нашы народы,
Хай братняя дружба жыве!

(Прыпеў).

